© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013




**СПАДАРОЖНІКАВАЕ!**
- **БТ, РТР, Астанкіна, НТБ С.-Пецярбург, Польшча-1, Польшча-2.**

### ДЗЯРЖАЎНЫ ПЕРАВАРОТ

*Ці адважыцца на яго А.Лукашэнка? 19 кастрычніка, калі Лукашэнка будзе праводзіць свой кангрэс, мы правядзем альтэрнатыўны кангрэс... Мы заклікаем грамадзян Беларусі выступіць у абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры. (Чытайце інтэрв'ю з лідарам фракцыі «Грамадзянскае дзеяньне» сп.Станіславам Багданкевічам)*

*ст. 2*





### ЗДАРЭНЬНІ

*Страшная трагедыя скалыхнула ў канцы мінулага тыдня Астравец...*

*Жыцьці трох чалавек забрала аварыя, якая здарылася на шашы Менск-Горадня...*

*Жыхарка пасёлка Фабрычны набыла ў невядомых на вул.Ажэшкі ў Горадні 250 «зялёных»...*

*Міліцыя вядзе вышук скрадзеных ...пчолаў.*

*ст. 8.*




5 і 6 кастрычніка будзе хмарна, з праясьненьнямі. 5-га ўначы без ападкаў, удзень чакаецца кароткачасовы дождж. 6 кастрычніка ўначы месцамі кароткачасовы дождж, удзень ападкаў не чакаецца. Вецер паўднёвы, 6-11 м/сек. Тэмпература паветра 5 кастрычніка: уначы - 4-9 градусаў, удзень - 11-16 градусаў цяпла. 6 кастрычніка ўначы 8-13, удзень - 13-18 градусаў вышэй нуля, месцамі да +20.

# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

№ 40 (187) • 4 — 10 кастрычніка 1996 г. • Кошт свабодны

## ПАЛОМНІЦТВА Ў АЛЬБЕРЦІН

400-я ўгодкі Берасьцейскай царкоўнай вуніі адзначаюцца сёлета ва ўсіх грэка-каталіцкіх парафіях Беларусі. Гарадзенская суполка днямі наладзіла паломніцтва ў прыгарад Слоніма - славуты Альберцін, дзе ў трыццатыя - пачатку саракавых гадоў мела разьвіцьцё нэавунія (**падрабязна пра яе гісторыю чытайце на 7-й старонцы**). Непадалёку ад былых вуніяцкіх пабудоваў вернікі ўсталявалі памятны трохметровы крыж (высокамастацкай кавальскай работы Юрася Мацко). Мемарыяльная шыльда на ім сьведчыць: «Памяці айцоў-езуітаў усходняга (грэка-каталіцкага) абраду, якія жылі і працавалі тут у 1923-1942 гг. 400-я ўгодкі Берасьцейскай вуніі. 1996 г.» Гарадзенскія вуніяты *правялі набажэнства і асьвячэньне новага знаку.* Удзел у высакароднай місіі ўзялі і полацкія пілігрымы. Адзін з іх - ераманах Венедыкт з вуніяцкага манастыра сьвятых Барыса і Глеба, выступіў з пранікнёнай прамовай. На зваротным шляху вернікі наведалі спрадвечную вуніяцкую сьвятыню - жыровіцкія муры.

**Ладзік МАЙНІЧ.**



## ПРЫХОДЗЬЦЕ ДА НАС У ГОСЬЦІ, КАЛІ НАС У ХАЦЕ НЯ БУДЗЕ!

2 кастрычніка згодна позве Ленінскага райсуду Горадні павінна была адбыцца так званая «судебная подготовка» па іску Дзяржкамдруку да нашай газеты. Аднак, зьявіўшыся разам з прадстаўніком Дзяржкамдруку ў вызначаны час у суд, мы даведаліся, што нас ...ніхто не выклікаў.

Справа ў тым, што позву выпісаў суддзя, які займаўся гэтай справай напярэдадні. Той, каму яе даручылі цяпер, пра гэта ня ведаў...

Наступная сустрэча ў судзе прызначана на 18 кастрычніка.

**Мікола МАРКЕВІЧ.**

## У ЭФІР НЕ ПУШЧАЦЬ!

**У Горадні разгараецца сапраўдная вайна з незалежнымі сродкамі масавай інфармацыі. Паралельна з спробамі зачыніць «ПАГОНЮ», мясцовыя ўлады пад ціскам «зьверху» спынілі дзейнасьць «Радыё НБК».**

За тры гады сваёй працы гэтая радыёстанцыя, нягледзячы на абмежаваны час выхаду ў эфір, пасьпела здабыць сабе шмат слухачоў. Першы трывожны сімптом супрацоўнікі НБК адчулі 30 верасьня, калі іх адхілілі ад выхаду ў эфір, нібыта з нагоды тэрміновай прафілактыкі. Пры гэтым журналістам адмовіліся даць нават адну хвіліну, каб папярэдзіць слухачоў.

У гэты ж дзень «Радыё НБК» атрымала ліст ад начальніка абласнога ўпраўленьня радыёвяшчаньня сп.Івашкевіча. Да 2 кастрычніка журналістам прапаноўвалася... вызваліць рэдакцыйныя памяшканьні! Справа да гэтага, аднак, пакуль не дайшла. Але ў сераду кіраўніцтва АУРТ вусна папярэдзіла, што эфір для незалежнага радыё прадстаўлены ня будзе. Пад час перамоваў з сп.Івашкевічам высьвятлілася, што фактычным ініцыятарам прыпыненьня дзейнасьці «Радыё НБК» стала Служба кантролю прэзідэнта ў Горадні, якая выявіла парушэньні ў падпісанай тры гады назад дамове аб умовах дзейнасьці радыёстанцыі. Прадставіць якія-небудзь канкрэтныя доказы пры сустрэчы з журналістамі кіраўнік прэзідэнцкай Службы сп.Марыя Праташчык адмовілася, пацьвердзіўшы аднак, што ў эфіры «Радыё НБК» ня будзе.

Тым часам у Горадні ўжо актыўна зьбіраюцца подпісы абураных слухачоў да старшыні аблвыканкаму сп.Дубко, а рэдакцыя радыё рыхтуе іскавую заяву ў суд на імя сп.Івашкевіча.

**Вітаўт РУДНІК.**

## У НОВАГА МЭРА ДЬЗВЕ ЗАДАЧЫ. ПЕРШАЯ — ПРАВЕСЬЦІ РЭФЕРЭНДУМ...

**У А.Лукашэнкі зноў зьявіліся падставы, каб абрушыцца на дэпутатаў. Праўда, не Вярхоўнага, а гарадзкога Савету. Бо ў Горадні на сесіі гарсавету, якая адбылася 1 кастрычніка, не было зацьверджана прадстаўленьне старшыні аблвыканкаму аб вызваленьні з займанай пасады мэра горада Генрыха Крупенкі. А прадстаўленьне рыхтавалася ў адпаведнасьці з вядомым прэзідэнцкім указам. Атрымліваецца, дэпутаты не пагадзіліся і з гэтым дакумантам. І хутчэй за ўсё гарсавету яшчэ прыйдзецца пачуць у свой адрас папрокі накшталт «разжигания конфронтации».**

Толькі справа не ў канфрантацыі, а ў тым, што ў самой працэдуры вызваленьня ад займанай пасады мэра дэпутаты ўгледзелі парушэньне закона выканаўчай уладай. Дыскусія наконт гэтага ішла даволі доўга і ў рэшце-рэшт скончылася галасаваньнем, якое зацьвердзіла вызваленьне Крупенкі ад пасады старшыні гарвыканкаму, але па яго ўласным жаданьні.

Гэты кампраміс падказаў сам Генрых Крупенка, які, адказваючы на пытаньне аб сваіх планах, заявіў: «Бяз працы са сваім досьведам не застануся, знайду яе сам. Але ў любым выпадку працаваць на ранейшай пасадзе не хачу».

Куды больш хутка прайшло зацьверджаньне мэрам горада Анатоля Пашкевіча, які да гэтага часу працаваў намесьнікам старшыні аблвыканкаму. Новае крэсла, як было відаць з прамовы А.Пашкевіча, асаблівага энтузіазму ў яго не выклікае. Ён нават сумна пажартаваў, маўляў, у сёньняшні час з вялікай ахвотай дабівацца пасады старшыні гарвыканкаму будзе хіба што толькі самазабойца.

І з гэтым нельга не пагадзіцца. Асабліва напярэдадні абвешчанага рэферэндуму. Бо ні для каго не сакрэт, што ў тых рэгіёнах, дзе праект прэзідэнцкай Канстытуцыі ня знойдзе патрэбнай падтрымкі ў народу, чакаюцца вельмі сур'ёзныя разборкі з мясцовымі вертыкальшчыкамі. І частка іх ужо думае пра запасныя аэрадромы. Калі насельніцтва прагаласуе супраць, трэба чакаць указаў аб новых «ліцэях».

Аднак, Аляксандр Пашкевіч не зьбіраецца наступаць на тыя граблі, на якія наступіў яго папярэднік. Цудоўна разумеючы, чаго чакае ад яго «галоўнакамандуючы», адразу пасьля зацьвярджэньня на пасаду, новы мэр заявіў, што перад ім стаяць дзьве задачы. Першая - стварыць умовы для правядзеньня лукашэнкаўскага рэферэндуму. Забясьпечыць нармальнае жыцьцё горада - гэта задача другая.

**І.ЗАРЭЧНЫ.**

## ЧЫНОЎНІКІ - ЗАЛОЖНІКІ ПАЛІТЫЧНАЙ БАРАЦЬБЫ

**Учора ў аблвыканкаме прайшла прэс-канферэнцыя па пытаньнях падрыхтоўкі і правядзеньня рэферэндуму і ўсебеларускага народнага сходу. Канферэнцыю праводзілі начальнік упраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі і друку аблвыканкама Уладзімір Амелька і намесьнік начальніка ўпраўленьня арганізацыйна-прававой работы аблвыканкама Мікалай Прысада.**

У сувязі з тым, што 19 верасьня гарадзенскі аблвыканкам зьвярнуўся да жыхароў прынёманскага краю з заклікам падтрымаць прэзідэнта і яго ініцыятыву правесьці рэферэндум 7 лістапада карэспандэнт «ПАГОНІ» пацікавіўся: на якую дату правядзеньня арыентуецца аблвыканкам? Спадар Амелька адказаў, што рэферэндум прызначаны парламантам на 24 лістапада і аблвыканкам пакуль прытрымліваецца гэтай даты.

Ці перастуцяць спадары Амелька і Прысада праз закон у выпадку, калі Аляксандр Лукашэнка загадае правесьці рэферэндум 7 лістапада? Спадар Прысада адказаў, што яны сталі заложнікамі палітычнай барацьбы і не будуць несьці адказнасьці за выкананьне супрацьзаконных загадаў. Але выконваць іх будуць.

**Дз.КІСЕЛЬ.**

## ЯК СМАРГОНСКІ РАК ПАЙШОЎ У АДСТАЎКУ

10 кастрычніка склікаецца сесія Смаргонскага гарадзкога Савету. Дэпутатам належыць выбраць новага мэра, бо стары - Ільля Рак -звольніўся па ўласным жаданьні. Рашэньне яго было нечаканым, не зьбіраўся ён звальняцца, але давялося. Выплыла, што мэр выдзяліў свайму намесьніку - Генадзю Сафронаву - 2-пакаёвую кватэру, у якую той засяліўся, нават ня маючы ордэра. А жыў дагэтуль намесьнік у інтарнаце, займаў там пакой, бо два яму, як ён хацеў, не далі. Чаму? Таму што сп.Сафронаў мае новы катэдж, але жыць у ім ня хоча, бо камунікацыі не падведзены. Пра ўсё гэта шумелі дэпутаты на гарадзкіх сесіях, але справа не рухалася, пакуль не напісала аб гэтай самай кватэры «ПАГОНЯ».

Спадар Рак адразу адчуў, што запахла смажаным. Па нашых зьвестках, паехаў ён, каб уладзіць пытаньне, да самога А.Дубко. Аднак той яго не прыняў і сп-р Рак расцаніў гэта належным чынам, ды сеў і напісаў заяву. Так ён уратаваў сябе ад звальненьня. А вось Г.Сафронава ўлады вызвалілі ад пасады і прымусілі вызваліць кватэру. Дарэчы, сп-р Сафронаў - халасьцяк. Але, як бачым, чалавек дастаткова самаўпэўнены. Страціўшы працу, ён беспрацоўным не хадзіў. Быў дырэктарам 3-й школы да гарвыканкаму і зноў цяпер ёй кіруе, а папярэдняга дырэктара на пенсію адправілі. А ўсё так лёгка атрымалася ў яго таму, што гарана кіруе ягоны прыяцель В.Бацько - былы кіраўнік райкаму КПБ. Г.Сафронаў, будучы намесьнікам мэра, купіў для яго службовую машыну (на грошы, выручаныя ад продажу турбазы). Карацей, на гэтую тэму можна доўга гаварыць. А крайнім у гэтай гісторыі аказаўся ўсё той жа сп-р Рак, які, прабыўшы на дзяржаўнай службе 30 гадоў, мусіў звольніцца за 2 гады да пенсіі. Але хто яму вінаваты? Ніхто.

**Віктар АНДРЭЕЎ.**

## СТВАРАЮЦЦА ЎМОВЫ ДЛЯ ФАЛЬСІФІКАЦЫІ

Прэзідыум Лідзкага гарсавету ўтварыў гарадзкую камісію для правядзеньня рэферэндуму, на чале з намесьнікам старшыні гарвыканкаму Мікалаем Чарнышовым. Нягледзячы на настойлівыя патрабаваньні, ніводзін прадстаўнік БНФ і іншых дэмакратычных арганізацый у камісію ня ўключаны.

**Станіслаў СУДНІК.**

## МАЎЧАНЬНЕ «ЯГНЯТАЎ»

**Цяперашнім дэпутатам Гарадзенскага гарадзкога Савету, тэрмін паўнамоцтваў якіх даўно скончыўся, прыйдзецца і надалей несьці свой крыж.**

Дадатковых паўторных выбараў у гарсавет, якія планавалася правесьці 24 лістапада адначасова з рэферэндумам, каб зьберагчы народныя грошы, не адбудзецца. Гарадзкая выбарчая камісія вырашыла (па ўсім відаць, пад ціскам з боку «вертыкалі») не прызначаць дату выбараў да правядзеньня рэферэндуму.

А ці адбудуцца выбары пазьней? - адказ на гэтае пытаньне ахутаны туманам.

Такая ж няпэўнасьць і ў адносінах давыбараў у парламант. Ужо даўно павінна было пачацца вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савету краіны, але акруговыя выбарчыя камісіі ў Горадні захоўваюць маўчаньне. Магчыма, вымушанае.

**Р.АНТАНОЎСКІ.**

## ПАЧАЛІСЯ «ГАСТРОЛІ». НА ЧАРЗЕ - «АНАЛІЗ»

**У план падрыхтоўкі і правядзеньня рэферэндуму ў Горадні мясцовая «вертыкаль» заклала «аналіз складу ўчастковых камісій і аказаньне ім інструктыўна-метадычнай дапамогі».**

Разам з прамыўкай мазгоў сяброў выбарчых камісій запланаваны і іншыя мерапрыемствы, накіраваныя на «обеспечение реализации задачи». Яшчэ 23 жніўня распараджэньнем цяпер ужо экс-мэра Генрыха Крупенкі былі створаныя рабочая камісія па падрыхтоўцы і правядзеньні рэферэндуму. Зараз у дадатак да яе прызначаны адказныя за арганізацыйна-кадравую, інфармацыйна-прапагандысцкую, юрыдычную і праваахоўную работу «вертыкалі» перад рэферэндумам. У Ленінскі і Кастрычніцкі раёны Горадні прызначаны куратары з гарвыканкаму. Разам з імі прапагандысцкую працу будуць весьці і «актывісты» з ліку грамадзкасьці - сьпіс іх ужо складзены. З 1 кастрычніка па прадпрыемствах і арганізацыях горада пачала гастраляваць «трупа» выкладчыкаў ВНУ і юрыстаў, якім пастаўлена задача «правільна» інфармаваць пра сутнасьць рэферэндуму. Вялікія грашовыя сродкі пойдуць на афармленьне нагляднай агітацыі, лістовак, запрашэньняў на рэферэндум. Каб надаць «народнаму плебісцыту» сьвяточны характар, рыхтуюцца «культурна-масавыя» мерапрыемствы. Пра дату правядзеньня рэферэндуму ў пастанове гарвыканкаму нічога не гаворыцца. Падобна, што гарадзенскія ўлады не сьпяшаюцца выразна акрэсьліць сваю пазіцыю.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

## А БЕДНЫЯ ЎСЕ ЗА «РАХВЯРЭНДУМ»

«Песьні» афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі пра клопат «бацькі» аб своечасовай выплаце пеньсій і заробкаў так і застаюцца «песьнямі». Затрымка з выплатай пеньсій працягваецца, асабліва ў сельскай мясцовасьці. Так па зьвестках начальніка Наваградзкага раённага аддзела аблупраўленьня сацыяльнай абароны насельніцтва З.Падліпскай, штомесяц на выплату пеньсій у раёне патрабуецца 7 мільярдаў рублёў, акрамя гэтага яшчэ 650 мільёнаў на дапамогу для дзяцей, а яшчэ на нараджэньне, пахаваньне, бальнічныя...

Надыходзіць у Фонд сацыяльнай абароненасьці штодня па 100 мільёнаў. У месяц набягае 2,5-3 мільярды. Асноўныя неплацельшчыкі - калгасы. Іх запазычанасьць у жніўні склала 6 мільярдаў. Таму калгасьнікам найбольш і затрымліваюць пеньсіі. Як плоцяць ім зарплату, вядома таксама. Тым ня менш, большасьць з іх катэгарычна настроеная ісьці на «рахвярэндум», каб падтрымаць Прэзідэнта.

Парадаксальна? Але рэальна. Галоднаму і «бацькавыя» абяцанкі ў радасьць.

**Станіслаў СУДНІК.**

## РАБОЧАЯ НАРАДА ФОНДАЎ КУЛЬТУРЫ

26-27 верасьня ў Горадні працавала рабочая нарада Фондаў Культуры Беларусі, Латвіі, Летувы, Польшчы, Расеі і Эстоніі. Гэта была першая афіцыйная сустрэча кіраўнікоў фондаў суседзкіх краін пасьля атрыманьня незалежнасьці былымі савецкімі рэспублікамі. Вынікам нарады было падпісаньне дамовы аб каардынацыі дзейнасьці па захаваньні і адраджэньні культуры.

**Д.К.**

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## «НЕ ЗЬДЗІЎЛЯЙСЯ, КАЛІ БУДЗЕМ СУКАМЕРНІКАМІ»

**...Пасьля яго выступаў у Вярхоўным Савеце астравецкія «вертыкальшчыкі» атрымалі дэпешу ад сваіх «партайгеноссэ»: «Каго вы нам прыслалі?» Гэта ж не аграрый, а бэнээфавец!» Мясцовая газета адмовілася друкаваць артыкулы ў момант стаўшага апальным дэпутата. На апошняй сесіі райсавету, якая адбылася на мінулым тыдні, яму літаральна заткнулі рот, ня даўшы скончыць прамову. Нягледзячы на папярэднюю дамоўленасьць, аказаліся зачыненымі дзьверы астравецкага кінатэатру, дзе павінна была адбыцца сустрэча з выбаршчыкамі.**

**Размаўляць з людзьмі прыйшлося на халодным восеньскім ветры. Крыху пазьней з дэпутатам Вярхоўнага Савету ад Астравецкай выбарчай акругі, намесьнікам старшыні парламанцкай камісіі па адукацыі, навуцы і культуры Іванам Сьвірыдам сустрэўся і карэспандэнт «ПАГОНІ».**

***- Прыём на роднай зямлі (лёс сп.Сьвірыда зьвязаны з Астравеччынай з 1966 году) для вас ня быў вельмі цёплым...***

- Пра тое, што я прыеду на сесію раённага Савету, каб выказаць сваё стаўленьне да апошніх падзей у краіне, я паведаміў за дзень. Пры сустрэчы старшыні райсавету і райвыканкаму малілі мяне - «Не выступай! Ты здымеш нас з працы!»

Але я ня мог ня выступіць, нават ведаючы, чым усё гэта скончыцца. Як толькі я пачаў гаварыць пра неабходнасьць рэфармаваньня эканомікі, пра шкоду рэферэндуму, падрыхтаваныя «таптуны» і «сьвістуны» закрычалі: «Не хотим его слушать!» Пасьля гэтага мяне па-просту пазбавілі слова. Праўда, знайшліся пасьля дэпутаты, з якімі я сустрэўся і аб усім пагаварыў.

***- Засталіся непачутымі і тыя словы, з якімі вы зьбіраліся зьвярнуцца да сваіх выбаршчыкаў са старонак «Астравецкай праўды»...***

- З рэдакцыі мне патэлефанавалі ў Менск і паведамілі, што надалей будуць друкаваць толькі тыя мае артыкулы, якія ў падтрымку прэзідэнта. Хто націснуў на газету - казаць ня трэба...

***- Вашыя апаненты на сёньняшняй сустрэчы папракалі Вас у тым, што ў дэпутаты вы ішлі падтрымліваць Лукашэнку, а зараз перашкаджаеце яму «работать»...***

- Мяне ніхто не абвінаваціць у фальшы. Пяць першых месяцаў сваёй працы ў парламанце я падтрымліваў прэзідэнта. Сварыўся з тым жа маладым і гарачым дэпутатам Знаўцам, калі той крычаў «Пад суд прэзідэнта!» Патрабаваў ад яго пашаны, калі не да прозьвішча Лукашэнкі, то да яго пасады.

Але час хутка адкрыў мне вочы. Я празрэў, як кацяня. Няхай сабе і ў 54 гады. Я ўбачыў, якія разумныя і адукаваныя людзі прыйшлі ў парламант. Шлындзікаў, Карпенка, Багданкевіч, Гразнова, Дабравольскі... Гэтыя людзі ведаюць і бачаць, куды нам трэба ісьці. Прэзідэнт жа ўсё схільны рабіць сілай. Я - сябра камісіі па рассьледаваньні вясновых падзей у Менску, бачыў стужкі з момантамі зьбіваньня дэманстрантаў, чытаў дакументы, сустракаўся з сьведкамі. Вельмі добра Мечыслаў Грыб сказаў пра тыя падзеі: «Каго б'ём? Дзяцей сваіх б'ём!» Убачыўшы гэта ўсё і даведаўшыся, што праваахоўныя ворганы нашай краіны налічваюць 127 тысячаў чалавек, што ў пераліку на душу насельніцтва колькасьць унутраных войскаў у Беларусі ў два разы большая, чым у Расеі і ў чатыры - чым у Польшчы, я пытаюся ў сябе: «Навошта нам усё гэта?!»

***- Можа спатрэбіцца. Праўда, ня нам. Напярэдадзе рэферэндум, у выніку перамогі на ім прэзідэнта, на вуліцах гарадоў зноў могуць загуляць дубінкі...***

- Так яно і будзе. Гайкі будуць зацяснутыя да канца. Не зьдзіўляйся, калі мы з табой будзем хутка суседзямі. Па камеры. Шарэцкі ў сваім нядаўнім артыкуле ў «Народнай волі» правільна папярэджваў аб небясьпецы ўсталяваньня ў Беларусі фашыстоўскай дыктатуры.

***- Адным з чарговых яе крокаў можа стаць правядзеньне, насуперак рашэньню парламанту, рэферэндуму 7 лістапада...***

Усе прынятыя на рэферэндуме рашэньні ў такім выпадку будуць незаконнымі. Старшыня Цэнтрвыбаркаму Віктар Ганчар пра гэта заявіў ясна. Мяне хвалюе іншае. Людзі ня хочуць увогуле галасаваць. Яны могуць не прыйсьці на выбары і рэферэндум. Але іх бюлетэні ў скрынях усё роўна апынуцца. Недарэмна старшыня Астравецкага райвыканкаму гэтак упэўнена заяўляе: «Я правяду рэферэндум і выйграю яго!» У выпадку паражэньня яны згубяць свае «цёплыя» месцы. Лукашэнка ім гэта добра даў зразумець. Таму я заклікаю ўсіх ісьці на рэферэндум. Шкада толькі, што заклік гэты мала хто пачуе. У адныя сродкі масавай інфармацыі дэпутатаў не пускаюць, іншыя, як тваю «Пагоню», прычыніць стараюцца...

***- Дарэчы, на сёньняшняй сустрэчы выбаршчыкі папракнулі вас у самаізаляцыі ад тэлебачаньня...***

- А што яшчэ было рабіць, калі розныя зімоўскія займаюцца падтасоўкай фактаў, зьневажаюць і бэсьцяць дзейнасьць як асобных дэпутатаў, так і ўсяго парламанту ўцэлым. Таму мы часова пазбавілі журналістаў БТ акрэдытацыі.

***- У мінулым нумары «ПАГОНІ» быў надрукаваны зварот Зянона Пазьняка да Вярхоўнага Савету абвясьціць імпічмэнт прэзідэнту. Пакуль ня позна.***

- У парламанце даўно ідзе збор подпісаў за гэта. Я яшчэ не падпісаўся. У мяне яшчэ цепліцца надзея, што прэзідэнт паразумнее, адменіць усе гэтыя рэферэндумы... Але шанцаў на гэта, ведаючы Лукашэнку і яго атачэньне, мала. Вунь Шарэцкі колькі разоў спрабаваў з ім дамовіцца... Такім чынам, подпіс, хутчэй за ўсё, прыйдзецца паставіць.

***- А тым часам Лукашэнка ўжо абірае «свой» парламант-Кангрэс і рыхтуецца сам «отрешить» дэпутатаў ад улады.***

- ...І публіку пад сябе на Кангрэс адбірае адпаведную. Зборышча гэтае - сапраўды спроба стварыць альтэрнатыўны, «кішэнны» парламант. Але «кангрэсмэны», зьехаўшыся ў Менск, яшчэ ўбачаць, колькі людзей прыйдзе выказаць свой пратэст супраць гэтай акцыі.

**Гутарыў Вітаўт РУДНІК.**




## РЭПРЭСІІ СУПРАЦЬ «ЧЭСНЫХ ЖУРНАЛІСТАЎ»

Вярхоўны Савет ануляваў акрэдытацыю журналістаў Дзяржтэлерадыё за парушэньні Канстытуцыі і сістэматычныя інсінуацыі адносна парламанту і яго кіраўнікоў. Адначасова прынята рашэньне зьвярнуцца да расейскіх тэлекампаній з просьбаю павялічыць час асьвятленьня падзеяў у рэспубліцы.

Нагадаем, што старшыня дзяржтэлерадыё Р.Кісель днямі быў пакараны судом на 3 млн.рублёў штрафу за парушэньні законаў краіны.

**С.С.**

## ПА ЗАГАДУ «НЯБЕСНАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ»

**Сярод вылучэнцаў на Усебеларускі народны сход, які пройдзе ў Менску 19 кастрычніка – людзі самых розных узростаў і прафесій, ад дырэктара прадпрыемства да радавога рабочага. Але часам выбар «народу Гарадзеншчыны» выглядае досыць дзіўна.**

Так, адзінагалосна калгасьнікі калгаса «Азёры» гарадзенскага раёну, які, дарэчы, узначальвае сын старшыні аблвыканкаму Аляксандра Дубко, абралі ў «дэлегаты» самога прэзідэнта. Няўжо Аляксандр Рыгоравіч, арганізоўваючы такую імпрэзу, патрабуе, каб яго асабіста запрасілі туды, ды напэўна ж ад імя не аднаго калектыву? Гэта ўсё роўна, як склікаць гасьцей у хату і прапанаваць ім запрасіць ў гэтыя госьці самога гаспадара.

Больш сьціплы выбар зрабілі рабочыя Гарадзенскага мясакамбінату. Іх дэлегатам стане віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг.

Калі згаданыя вышэй асобы яўна абіраліся па разнарадцы зьверху, то напэўна ігуменьня жаночага Сьвята-Раства Багародзіцкага праваслаўнага кляштара ў Горадні матухна Гаўрыіла патрапіла на сход па разнарадцы «нябеснай канцылярыі».

Аляксандр Рыгоравіч, як бачым, стараецца стварыць грунтоўную усебаковую падтрымку яго рэферэндуму, калі зьвярнуўся да сьвятой паствы. Але ж праўду кажуць, на Бога спадзявайся, а сам не падводзь.

**С.ВОЛАТ.**

## АДБУДЗЕЦЦА СХОД ЧЫНОЎНІКАЎ

Усім вядома, што 19 кастрычніка бягучага году Прэзідэнтам намечана правесьці Усебеларсукі народны сход па пытаньнях рэферэндуму. Але ж ці можна гэты сход назваць народным? Адказ адзіны - не. Таму што на яго абраныя ў асноўным чыноўнікі розных рангаў і пасад, а прадстаўнікоў рабочых і сялян - адзінкі. Гэтую выснову можна зрабіць з інфармацыі сродкаў масавай інфармацыі. А лепш саслацца на прыклад нашага горада Скідаля, што ў Гарадзенскім раёне.

З 7 чалавек, абраных на Усебеларускі народны сход, - усе кіраўнікі прадпрыемстваў і установаў, сярод іх дырэктар аўтапарка N 5 С.Іаськевіч, начальнік будаўніча-эксплуатацыйнага прадпрыемства меліярацыйных і водагаспадарчых сістэм, намесьнік старшыні гарадзенскага райвыканкаму Ю.Белавус, генеральны дырэктар вытворчага аб'яднаньня хлебапрадуктаў І.Хворык ды іншыя. Чаму ж на народны сход не патрапіў ніводзін рабочы? Тут адказ вельмі просты: рабочыя заціснутыя так, што баяцца рот адкрыць супраць кіраўнікоў. А калі хто асьмеліцца, дык паплаціцца працай. Бо на прадпрыемствах і ва ўстановах для кіраўнікоў існуюць правілы: што хачу, тое варачу. І нідзе абароны ня знойдзеш.

**Ільля БАРЫСАЎ.**

## СТАНЕМ «ДРУГІМ ГАІЦІ Ў ЦЭНТРЫ ЭЎРОПЫ»?

**У Менску ў нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэсканферэнцыя старшыні Канстытуцыйнага суду Валерыя Ціхіні, суддзі Міхаіла Пастухова і прэс-сакратара КС Алега Маскалёва. На думку В.Ціхіні, «прэзідэнцкі» праект разьдзяліў грамадзтва на праціўнікаў і прыхільнікаў існуючай Канстытуцыі; дадатковых правоў грамадзяне Беларусі па праекце не атрымліваюць, прэзідэнт жа атрымлівае нават ня «царскія», а «імперскія» паўнамоцтвы.**

**В.Ціхіня таксама назваў прычыны, па якіх прэзідэнцкае жаданьне «параіцца з народам» не павінна быць рэальна ажыцьцёўлена.**

Перш за ўсё, гэта манаполія дзяржавы на СМІ. «У нас няма беларускага радыё і тэлебачаньня, у нас ёсьць толькі прэзідэнцкае радыё і тэлебачаньне». «Дзяржаўная тэлерадыёкампанія, - заявіў В.Ціхіня, -стала «монстрам», які злучае ў сабе сродак масавай інфармацыі і ворган дзяржаўнага кіраваньня». Гэта пацьвердзіў і сам склад аўдыторыі на прэс-канферэнцыі. Там прысутнічалі прадстаўнікі расейскага радыё і тэлебачаньня, Польскага агенцтва навін, беларускіх недзяржаўных выданьняў, але не было ніводнага прадстаўніка айчынных дзяржаўных СМІ.

Наступная з прычын, названых В.Ціхінем, - панаваньне ў грамадзтве неправавога мысьленьня, нізкі ўзровень прававой культуры. Юрысты гавораць нават аб «прававой інфляцыі», якая адбываецца ў Беларусі.

І апошняя прычына - гэта небясьпека прыняцьця менавіта прэзідэнцкага праекту. Аб ім кіраўнік КС сказаў, што праект «не вытрымлівае ніякай крытыкі» і што Беларусь, калі большасьць выбаршчыкаў яго падтрымае, стане «другім Гаіці ў цэнтры Эўропы».

Суддзя М.Пастухоў дадаў, што «цяперашняя Канстытуцыя стварае ўсе ўмовы для нармальнага функцыянаваньня нашай дзяржавы. Крызіс у грамадзтве выкліканы зусім не недасканаласьцю Канстытуцыі, а тым, што законы не выконваюцца, скажаюцца».

Па словах кіраўніка КС В.Ціхіні, ён «заўсёды падтрымліваў парламанцкую рэспубліку, паколькі гэта найбольш дэмакратычная форма праўленьня. Я і зараз застаюся прыхільнікам гэтага пункту гледжаньня. Але, як законапаслухмяны грамадзянін, я павінен кіравацца той Канстытуцыяй, якая прынята».

Старшыня Канстытуцыйнага суду выказаў свае адносіны да Аляксандра Абрамовіча, «хроснага бацькі» прэзідэнцкага праекту Асноўнага закона. «...Я нядаўна параіў яму здаць дыплом юрыста, каб ён перастаў ганьбіць нашу прафесію», - заявіў Валеры Ціхіня.

Кіраўнік КС абверг інфармацыю аб тым, што ў свой час ён галасаваў супраць прыняцьця цяперашняй Канстытуцыі. «Дастаткова падняць імянныя бюлетэні, каб пераканацца - я галасаваў за Канстытуцыю 1994 году», - сказаў ён.

## "ГРАМАДЗЯНСКАЕ ДЗЕЯНЬНЕ" ЎГАВОРВАЦЬ НЯ ТРЭБА



**1 кастрычніка ў Менску зноў прайшло паседжаньне круглага стала палітычных партый ды грамадзкіх аб'яднаньняў. Удзельнікі круглага стала ў чарговы раз спрабавалі ўгаварыць прадстаўнікоў некаторых фракцый ВС ініцыяваць імпічмэнт Прэзідэнту А.Лукашэнку. Угаворваць ня трэба было толькі прадстаўнікоў фракцыі «Грамадзянскае дзеяньне». Лідар гэтай фракцыі сп.Станіслаў Багданкевіч даў інтэрв'ю для «Пагоні».**

***— Станіслаў Антонавіч, якія законы альбо пытаньні зьбіраецца ініцыяваць фракцыя «Грамадзянскае дзеяньне» у бліжэйшыя дні на сесіі?***

— Наша фракцыя зараз падрыхтавала закон пра шэсьці, мітынгі, пікетаваньні. Ужо вынесены на абмеркаваньне дэпутатаў праект закона пра падаткавы кодэкс. Пры ўдзеле фракцыі на разгляд у другім чытаньні ўнесены важныя эканамічныя законапраекты: аб банкруцтве, аб падтрымцы прадпрымальніцкай дзейнасьці і шэраг іншых законапраектаў.

Мы ініцыявалі у ВС збор подпісаў для правядзеньня працэдуры імпічмэнту Прэзідэнту А.Лукашэнку. Да гэтай ініцыятывы далучылася нямала дэпутатаў, не уваходзячых у іншыя фракцыі, а таксама сацыял-дэмакраты, таму што іх кіраўніцтва не праяўляе такой ініцыятывы. Але фракцыі камуністаў і аграрыяў лічаць вартым прыпыніць працэс імпічмэнту, у сувязі з тым, што прыняты зварот да Прэзідэнта аб нунулявым варыянце.

***— Ці можа ліст Прэзідэнта Расіі Б.Ельцына, які днямі атрымаў А.Лукашэнка, падштурхнуць аграрыяў ды камуністаў да больш рашучых дзеяньняў?***

—З інфармацыі, якую я маю, там ня ўсе так адназначна. Магчыма там ёсьць спроба выкарыстаць палітычную сітуацыю на Беларусі для адмовы нашай краіны ад нейкіх элементаў суверэнітэту, што для мяне недапушчальна. Мне імпануе, калі Б.Ельцын заклікае прытрымлівацца законаў ды Канстытуцыі, але каб рабіць узважаныя высновы з гэтага ліста, трэба з ім цалкам азнаёміцца, а я гэтага ліста пакуль ня бачыў.

***— Фракцыя «Грамадзянскае дзеяньне» прытрымліваецца меркаваньня, што Беларусі ўвогуле не патрэбна пасада Прэзідэнта?***

— Наша фракцыя стаіць на пазіцыі, што існуючая Канстытуцыя вельмі добрая Канстытуцыя. Безумоуна, штосьці можна ўдасканаліць, з улікам досьведу існаваньня нашай краіны. Мы лічым, патрэбна крыху абмежаваць паўнамоцтвы прэзідэнта і пашырыць паўнамоцтвы іншых галін улады, зрабіць сапраўднае народаўладдзе. Да прыкладу, каб на Гарадзеншчыне выбіралі кіраўніка горада , раёну, вобласьці ўсенародна. Каб яны мелі адказнасьць непасрэдна перад сваімі выбаршчыкамі. За Прэзідэнтам захаваць паўнамоцтвы кіраўніка дзяржавы, гэта, як каралева у Англіі альбо кароль у Швецыі.

***— Калі А.Лукашэнка усе ж вырашыць праводзіць рэферэндум 7 лістапада, што будзе рабіць фракцыя «Грамадзянскае дзеяньне»?***

—19 кастрычніка, калі Лукашэнка будзе праводзіць свой кангрэс, мы правядзем альтэрнатыўны кангрэс 18-19 кастрычніка. Мы заклікаем грамадзян Беларусі выступіць у абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры. Маем надзею, што з усяе краіны ў гэтыя дні ў Менск зьедуцца самыя актыўныя людзі нашага грамадзтва. Калі гэта дэманстрацыя будзе ўнушальнай, Лукашэнка не рашыцца на дзяржаўны пераварот. Усялякае зьмяненьне даты рэферэндуму будзе яўным парушэньнем існуючай Канстытуцыі. Цэнтральная выбарчая камісія, безумоўна, ня пойдзе на парушэньне законнасьці. І таму А.Лукашэнка можа правесьці толькі фальсіфікаваны рэферэндум.

Але да гэтага пры актывізацыі як нашай, так і міжнароднай грамадзкасьці справа можа ня дойдзе.

**Людвік Валынец.**

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# ГРАМАДЗТВА

## У РОДНУЮ ХАТУ Ў ГОСЬЦІ

**Гарадзенка Лілія Жук (на здымку) у 1990 годзе ад'ехала ў Канаду. Тады ёй было 20 гадоў. Сёлета Ліля атрымала канадзкае грамадзянства. У верасьні яна прыехала ў Горадню наведаць бацькоў. Канадзкая грамадзянка згадзілася даць інтэрв'ю для «ПАГОНІ».**

*- Ліля, як атрымалася, што ты засталася ў Канадзе?*

- У 1990 годзе мае знаёмыя запрасілі мяне ў Таронта. У Канадзе я ўбачыла зусім іншы сьвет. Калі першы раз зайшла ў краму, ад багацьця тавараў у мяне быў нервовы стрэс. Пасьля нашых талонаў, дэфіцытаў, чэргаў уражаньне ад узроўню жыцьця канадцаў было ашаламляльнае. Вось і вырашыла застацца.

*- Як ты змагла ўладкавацца на другім канцы сьвету, у чужой краіне?*

- Спачатку было вельмі цяжка. Іншыя людзі, іншая сістэма, незразумелая мова. Першыя месяцы працавала нелегальна на швейнай фабрыцы адсобніцай за вельмі маленькія грошы. Праз нейкі час атрымала часовы дазвол на жыхарства, дзякуючы якому ўдалося ўладкавацца на легальную працу - афіцыянткай у рэстаране. А праз год я ўжо мела правы эміграНта з дазволам сталага жыхарства ў Канадзе. Хто мае такі дазвол, карыстаецца ўсімі правамі канадзкіх грамадзян, акрамя права ўдзелу ў выбарах. Пражыўшы тры гады ў якасьці эмігранта, я атрымала магчымасьць стаць канадзкай грамадзянкай. Пасьля таго, як у мяне прынялі пісьмовы і вусны іспыты па гісторыі і сучасным эканамічным і палітычным становішчы Канады, я стала ўладальніцай канадзкага пашпарта. Зараз маю па палове стаўкі ў трох гатэлях, дзе працую афіцыянткай.



*- Як канадцы адносяцца да эмігрантаў?*

- Канада - краіна эмігрантаў. Нехта прыехаў 10 гадоў таму, нехта 50. Народжаныя ў Канадзе ведаюць, што іх бацькі таксама калісьці былі эмігрантамі. Таму ўсе намагаюцца дапамагчы новапрыбыўшым. Раяць, дзе знайсьці працу, зьняць таннейшую кватэру.

*- Атрымліваецца, жыцьцё пры капіталізме не такое страшнае, як казалі ў савецкай школе?*

- Канадзкі лад больш нагадвае сацыялізм: бясплатная адукацыя, бясплатная медыцына, абавязковая страхоўка. Няма розьніцы, якога колеру ў цябе скура і з якой краіны ты прыехаў. Адчуваецца і матэрыяльная падтрымка.

Напрыклад, у мяне - сезонная праца, заробак вагаецца ад 800 да 2000 даляраў у месяц, а за кватэру трэба плаціць 600. Але я магу ўзяць у сваёй фірме даведку, што нейкі перыяд часу для мяне няма працы і дзяржава аплочвае 62% ад майго сярэдняга заробку. Гэта робіцца за кошт падаткаў, якія я плачу ў канцы кожнага году.

*- Ці зьбіраешся ты калі-небудзь вярнуцца на радзіму?*

- Так. І я б вельмі хацела стаць грамадзянкай Беларусі. Але беларускае заканадаўства не дазваляе падвойнага грамадзянства. Каб быць бліжэй да дому, хачу паспрабаваць уладкавацца на працу ў філіял сваёй фірмы ў Польшчы. А пакуль у Беларусі ня зьменіцца становішча і законы, прыйдзецца прыязджаць у родную хату пагасьцяваць.

**Гутарыў Дз.КІСЕЛЬ.**

## НЕ ПА ЗАПАВЕТАХ ЖЫВЕМ, ТАВАРЫШЫ!

**ГАРАДЗЕНСКІЯ ЎЛАДЫ ФАКТЫЧНА ЗАБАРАНІЛІ ДОСТУП У ПРОДАЖ ГАРЭЛКІ ЛЕПШЫХ ЗАВОДАЎ КРАІНЫ**

Тое, што айчынны дым і салодкі, і прыемны, пераканаўча даказаў вялікі Ленін у сваёй працы «Як рэарганізаваць тытунёвую фабрыку». У гэтым творы Ільіч тлумачыць народу, што прадукцыя гарадзенскай тытунёвай фабрыкі шкодзіць здароўю значна меней, чым безакцызнакантрабандныя тавар імя сэра Уінстана Чэрчыля, лорда Мальбара. Калі некаму дым гарадзенскіх цыгарэт падаецца смуродам, той яшчэ не ўзьняўся да ўзроўню разуменьня ўласных інтарэсаў.

Паколькі Леніна ніхто не адмяняў, то на першы погляд цалкам натуральным лічыцца, што гарадзенцы павінны перад усімі сьпіртнымі напоямі аддаваць перавагу мясцовым бровараМ. «Крышталь» хай п'юць «сталічныя штучкі». У Берасьці - вольная эканамічная зона, там свае парадкі, нас яны не датычаць. І немчуру з «Іванівымі-Гарбачовымі» просім не турбавацца. Трэба разумець - у горадзе бюджэт, як у князя Давыда Гарадзенскага пасьля трохгадовай крыжацкай асады.

«Якая табе розьніца, чыю гарэлку піць?» - сказаў мне адзін знаёмы сантэхнік. - У нас, сантэхнікаў, такіх праблем няма».

«Зразумей, - пераконваў адказны супрацоўнік «вертыкалі», - у краіне ідзе сапраўдная гарэлачная вайна. Ніхто ня хоча аддаваць прыбытак ад гандлю «агненнай водою». А ты. калі захочаш. можаш знайсьці менскую ці брэсцкую гарэлку ў фірмовых крамах».

У мяне, на жаль, не такія загартаваныя мазгі, як у сантэхнікаў ці, нават, у электрыкаў. Я і так кручуся па жыцьці, як кубік Рубіка. Хацелася б хоць гарэлку не шукаць.

Чытачы могуць падумаць, што я за рэвізію Леніна. Гэта ня так. Ягонае вучэньне пра загінаваньне пяці прыЗнакаў імперыялізму як ніколі актуальнае. Проста гарадзенскія ўлады яго няякасна засвоілі. Альбо не чыталі іншай працы правадыра «Лепей менш, але да дна». У ёй сказана, што новага чалавека немагчыма выхаваць чыста адміністратыўнымі мерамі. І далей: «...гарэлка пальецца шырокім патокам».

Прывілеі гарадзенскім сьпіртоўцам ёсьць адхіленьне ад генеральнай лініі, якое трэба тэрмінова выпраўляць.

Іначай - аргвывады.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## ЛУЧЫНА ЎЖО ДАГАРАЕ?

**Шэрагу гарадзенскіх прадпрыемстваў пагражае ліквідацыя пры правядзеньні агульнарэспубліканскай перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадараньня.**

На апошнім паседжаньні гарвыканкаму такія папярэджаньні былі зробленыя ВА «Надомная праца» і акцыянерным таварыствам швейна-гандлёвай фірмы «Элод» і камбіната будматэрыялаў.

За 8 месяцаў гэтага году страты гэтых прадпрыемстваў склалі адпаведна 599, 1486 і 864 млн.рублёў. Прычынай, як запісана ў рашэньні гарвыканкаму, зьяўляецца павялічэньне выдаткаў на вытворчасьць прадукцыі, страта рынкаў збыту, неплацёжаздольнасьць партнёраў.

Сур'ёзных мераў да праштрафіўшыхся прадпрыемстваў прынята не было. «Вертыкаль» уліч[ы]ла, што ўсе кіраўнікі («Надомная праца» -сп.Фесько; «Элод» - сп.Логач; КБМ - сп.Лучына) працуюць усяго каля году на сваіх пасадах. Дырэктару КБМ, аднак, даручана «упорядочить соотношение темпов роста заработной платы и объёмов производства».

Што датычыць гаспадаркі сп.Фесько, то яна, магчыма, хутка пяройдзе ў гарадзкую маёмасьць.

**В.ДРЭМА.**

## КЛУБ C.A.R.P.

**30 верасьня ў парэцкай школе-інтарнаце для дзяцей-сірот адбылася дабрачынная акцыя Студэнцкай Асацыяцыі C.A.R.P.**

C.A.R.P. існуе ў Горадні з лістапада мінулага году. Прэзідэнтам Гарадзенскай абласной арганізацыі зьяўляецца Мар'ян Мікелевіч. Галоўная мэта Асацыяцыі - агульнаадукацыйная праграма для моладзі.

- Па-першае, гэта лекцыі, семінары па праграмах жыцьця моладзі, - гаворыць віцэ-прэзідэнт **Аляксей Мацэвіла**. – Аднадзённыя - у Горадні, трох-пяцідзённыя - у Менску і яго прыгарадах. Па-другое, гэтая праграма накіравана на тое, каб маладыя людзі маглі дзяліцца любоўю з іншымі, хто адчувае недахоп яе, напрыклад, дзецi-сiраты ў дамах-інтарнатах. У чым праяўляецца нашая дабрачынная дзейнасьць? Мы едзем у парэчынскую школу-інтарнат, дзе наведваем дзяцей-сірот. Гэта хутчэй не матэрыяльная, а маральная дапамога. Наведваць дом-інтарнат зьвярнуўся да нас за дапамогай і мы зьбіраем дзіцячую вопратку для яго выхаванцаў.

*- Аляксей, вы казалі, што сябрам міжнароднай асацыяцыі зьяўляецца сям'я Шушкевічаў?*

- Так, сям'я Шушкевічаў была на міжнароднай канферэнцыі дзяржаў Азіі і Эўропы «Моладзь сьвету за мір і бясьпеку», што праходзіла ў Маскве ў чэрвені гэтага году. Дарэчы, Станіслаў Шушкевіч выступіў з прамовай да ўсіх прысутных.

З 1 кастрычніка сябры Асацыяцыі распачалі ў СШ N 27 Горадні лекцыі на тэму «Чыстае каханьне». Загадзя да гэтага адбыўся аднадзённы семінар, дзе лекцыі чыталі прадстаўнікі C.A.R.P. Цікаўнасьць да лекцый праявілі і іншыя гарадзенскія школы.

**Андрэй НОВІК.**

## КАНЕЦ Д'ЯБАЛЬСКІХ ТАНЦАЎ

У канцы верасьня ў Астраўцы быў зноў адчынены для вернікаў Георгіеўскі касьцёл. Пабудаваны ў 1911 годзе, касьцёл напаткаў незайздросны лёс. З моманту прыходу ў 1939 годзе савецкай улады і да нядаўняга часу гэты помнік архітэктуры неагатыкі выкарыстоўваўся як склад. Намаганьнямі астравецкага ксяндза Алейзы і прыхаджан, касьцёл зноў адчыніў свае дзьверы. Удзел у адкрыцьці храма браў гарадзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч. Некалькі гадоў назад да вернікаў вярнуўся і славуты Георгіеўскі касьцёл у Варнянах, які камуністы некалі перат[в]арылі ў танцпляцоўку.

**В.АНІМУЦКІ.**

## УЛАДЫ ДБАЮЦЬ ПРА ПАКОЙ

Напярэдадні рэферэндуму Лідзкія ўлады будуць спаць спакайней, чым дагэтуль. У горад на сталае месца дыслакацыі прыбыла сьвежая рота ахоўнікаў парадку. Асноўная яе задача - нясеньне патрульна-паставой службы ў горадзе і раёне.

## «ЛАЗ» ЛЬВОЎСКІ І ЛІДЗКІ

Аўтобусы лідзкага досьледнага завода «Нёман» добра вядомыя ў краіне. Але адзін «ЛіАЗ» ня выправіў цяжкага становішча былога гіганта вайскова-абарончага комплексу. Нядаўна на сумесным паседжаньні савету прадпрыемства і прафкаму быў адобраны праект вытворчасьці сумесна з львоўскімі калегамі аўтобусаў сямейства «ЛАЗ».

## ЧУЖУЮ ВЫМОВУ НА СВОЙ ХЛЕБ НЕ НАМАЖАШ

**Пасьля візіту А.Лукашэнкі на Наваградчыну, там, як і было абяцана, некалькі дзён працавалі супрацоўнікі Службы кантролю Прэзідэнта. І вось сталі вядомыя вынікі. У горадзе было прынята 200 грамадзян, якія зрабілі 252 звароты. У раёне было прынята 66 чалавек.**

У выніку ў горадзе тром начальнікам аб'яўлены вымовы, а на аднаго напісана прадстаўленьне на спагнаньне ў вобласьць. У раёне строга папярэджаны тры старшыні калгасаў.

Па заяве адной жанчыны райвыканкам вырашыў аказаць ёй матэрыяльную дапамогу. Астатняя пара пайшла ў адпіскі.

Чакайце, наваградцы, наступнага прыезду «бацькі», мо і яшчэ каму дапамогуць.

**Станіслаў СУДНІК.**

## «БРОНЬ» КРЕПКА И ТАНКИ НАШИ...»

**Замест таго, каб ствараць новыя працоўныя месцы, гарадзенскія ўлады вырашаюць праблему беспрацоўя выпрабаванымі ў савецкія часы метадамі.**

Гарвыканкам зацьвердзіў нядаўна для прадпрыемстваў, арганізацый і установаў броню на 1997 год прыёму на работу грамадзян, якія не могуць на роўных канкураваць на рынку працы. Згодна з гэтым дакумантам, многія гарадзенскія прадпрыемствы, якія не скарачаюць і так «лішніх» рабочых толькі з-за таго, што трэба будзе плаціць ім дапамогу па скарачэньні, вымушаныя будуць браць на працу дадаткова: інтэрнацыяналістаў, маці-адзіночак, моладзь да 18 гадоў, былых зьняволеных і г.д. За неабгрунтаваную адмову ў прыёме на працу такога «кантынгенту» устаноўлены штраф у памеры 12 «мінімалак».

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

# МАСАВЫЯ БАНКРУЦТВЫ

## НАМ ПАКУЛЬ НЕ ПАГРАЖАЮЦЬ

**«ПАГОНЯ» паведамляла пра першую ў нашай вобласьці справу аб банкруцтве. Гаспадарчы суд прызнаў банкрутам СП «Сэвэкс». За прыватнай справай стаіць канкрэтная зьява эканамічнага жыцьця. Ці прывядзе магчымая рэформа эканомікі да масавага банкруцтва прадпрыемстваў і звальненьня іх працаўнікоў? Якім чынам зьвязаныя эфектыўнасьць вытворчасьці і прызнаньне прадпрыемстваў неплацёжаздольнымі?**

**Па просьбе «ПАГОНІ» на гэтыя і іншыя пытаньні, як яны бачацца з прававога пункту гледжаньня, адказвае суддзя Гаспадарчага суду Гарадзенскай вобласьці сп.Уладзімір Філіпоўскі.**

- Закон аб эканамічнай неплацёжаздольнасьці і банкруцтве быў прыняты 5 гадоў таму назад, але ўвесь гэты час практычна не працуе. Галоўным чынам з-за складанасьці механізму яго ўжываньня, які прадугледжвае два этапы ў прызнаньні банкрутам. Акрамя таго, Закон не дае магчымасьці санацыі (аздараўленьня) эканамічнага стану прадпрыемства, дрэнна абараняе інтарэсы крэдытораў. Таму Вышэйшы Гаспадарчы Суд яшчэ ў студзені 1995 году прапанаваў Вярхоўнаму Савету праект новага закона.

*- І што ў праекце новага?*

- Галоўнае ў ім тое, што мэтаю працэдуры банкруцтва зьяўляецца ўрэгуляваньне ўзаемаадносінаў паміж прадпрыемствамі і крэдыторамі, і толькі ў крайнім выпадку - ліквідацыя суб'екта гаспадараньня. На першым месцы згодна новаму праекту стаіць санацыя (аздараўленьне) банкрута.

*- Значыць рабочым у перспектыве ня трэба баяцца масавых звальненьняў са збанкрутаваўшых заводаў?*

- У практыцы гаспадарчых судоў справы аб банкруцтве вельмі рэдкія. Нішто не паказвае на тое, што іх колькасьць можа раптоўна павялічыцца. Напэўна тэмпы рэфармаваньня эканомікі будуць акрэсьліваць лёс кожнага канкрэтнага прадпрыемства: каго зьліквідаваць, каго перанакіраваць на іншыя сферы дзейнасьці, а каму проста зьмяніць кіраўніцтва.

Без эфектыўнага Закона аб банкруцтве аздаравіць эканоміку ў комплексе немагчыма. Гэта засьведчылі таксама ўдзельнікі міжнароднага семінару па праблемах эканамічнай неплацёжаздольнасьці і банкруцтве, які адбыўся ў Менску ў чэрвені гэтага году. Усе ўдзельнікі, азнаёміўшыся таксама з замежным досьведам, прыйшлі да адзінадушнай высновы - прыняцьцё закона ў новай рэдакцыі лавінна.адбыцца як мага хутчэй.

*- Як вы ставіцеся да справаў аб банкруцтве?*

- Чым лепш справы ў эканоміцы, тым менш справаў у суддзяў. Вось такая сітуацыя мяне б задаволіла.

**Гутарыў Самсон САМАСУЙ.**

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ ПРА СУСЕДА?

**Польшча для сёньняшняга беларуса - гэта перш за ўсё беластоцкія і варшаўскія кірмашы, мытні, аўтамабільныя пераходы і ненавіснае саўку слова «пан».**

Разам з тым, пад час завяршэньня чарговай «бітвы за ўраджай», варта згадаць, што Польшча адносіцца да буйнейшых сельскагаспадарчых вытворцаў.. У 1993 годзе яна заняла 2 месца ў сьвеце па валавым зборы жыта і бульбы, 6-е - па аўсу і пагалоўю сьвіней, 7-е - па вытворчасьці рапсу, 8-е - па цукровых буракаХ, 9-е - па малаку.

Сельгасугоддзі складаюць 18,6 мільёна гектараў, ці 59.6 працэнта тэрыторыі. На прыватныя гаспадаркі прыходзіцца больш 80 працэнтаў усіх сельгасугоддзяў. Ворная зямля займае 76,7 працэнта, сады - 1,6, лугі і пашы - 21,7 працэнта.

Ступень механізацыі высокая. У 1994 годзе на адзін трактар прыпадала 14 гектараў сельгасугоддзяў. Для параўнаньня, у Беларусі на адзін трактар прыходзіцца 171.6 гектара сельгасугоддзяў і з іх 51,7 гектара ворыва.

Землі ў Польшчы раздробленыя. Сярэдняя плошча сялянскай гаспадаркі ў 1994 годзе складала 7,6 га, пры гэтым 32,8 працэнта гаспадарак маюць ад 2 да 5 гектараў, 26,8 працэнта - ад 5 да 10, 11 працэнтаў - ад 10 да 15, 7,8 працэнта - звыш 15, 18,6 працэнта гаспадарак маюць 1-2 гектары зямлі.

У 1994 годзе пагалоўе жывёлы складала: буйной рагатай - 7,1 мільёна галоў, сьвіней - 19,5 мільёна, авечак - 900 тысяч, коней - 600 тысяч. Вытворчасьць малака дасягнула 11 756 мільёнаў літраў, яек - 5 815 мільёнаў штук.

Тэрыторыя Польшчы - 312,7 тысяч квадратных кіламетраў, насельніцтва складае 38,6 мільёна чалавек.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## ЮБІЛЕЙ «РАДЫЁ БЕЛАСТОК»

29 верасьня Беластоцкае радыё адзначыла свае 44-я ўгодкі. З гэтай нагоды праводзіўся дзень адкрытых дзьвярэй. Шматлікія мерапрыемствы сумесна са спонсарамі былі арганізаваныя ў Беластоку, а таксама ў Сувалках і Элку.

«Радыё Беласток» вяшчае круглыя суткі. Яго праграмы рыхтуе больш як 40 рэпарцёраў.

**С.С.**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





# ЗЬНІЧКА ВУНІІ НАД АЛЬБЕРЦІНАМ

**Мілагучная назва Альберцін... Маляўнічыя краявіды, якія бавяць вока, невялічкая рачулка Іса, прыток Шчары, ды бязьмежнае лясное мора... Пра што яшчэ можа вам сказаць назва сёньняшняга прыгарада Слоніма? Мясьціны гэтыя слаўныя ня толькі сваім прыродным хараством. Менавіта тут у пачатку XX стагоддзя знаходзіўся адзін з цэнтраў вуніяцкага руху на Заходняй Беларусі.**

У 20-х гадах у Альберціне граф Пуслоўскі ахвяраваў для грэка-каталіцкай царквы свае землі, дзе і быў пабудаваны вялікі комплекс, які складаўся з манастыра, семінарыі і царквы. 26 верасьня 1924 году сорак чалавек з ордэна езуітаў, якія належалі да ўсходняга абраду, заснавалі ў Альберціне Усходнюю місію з навіцыятам. Гэта былі вернікі розных нацыянальнасьцяў - рускія з Казані і Сібіры, украінцы, палякі, славакі, французы, балгары, румыны, беларусы з Полацку і Вільні.

Альберцінскія айцы-езуіты першыя сярод вуніятаў тых гадоў распачалі набажэнства на беларускай мове, яго адпраўляў А.Дубровскі. У той жа час праводзілася служба на рускай і польскай мовах. Усе манахі, не зважаючы на нацыянальнасьць, абавязаны былі вывучыць беларускую мову. Для гэтага былі ўведзеныя агульныя чытаньні ўголас, чыталіся лекцыі па гісторыі і геаграфіі Беларусі. Вось што пра гэта пісаў карэспандэнт з Альберціна ў «Хрысьціянскай думцы» ад 25 красавіка 1929 г.: «Некаторыя (езуіты), што не знялі, або зналі кепска нашу мову, прыняліся з шчырым парываньнем за грунтоўнае яе пазнаньне, каб лепей і цэлай душой аддацца таму народу, над якім працуюць... Нават розныя сектанты, як баптысты і неахвотныя праваслаўныя, бачачы шчыры намер айцоў, намер збаўленьня душ і чуючы яснае і зразумелае выкладаньне рэлігійных праўдаў у роднай мове, ахвотна прыходзяць на набажэнствы.

Дзеля таго, што Альберцінская вуніяцкая парафія складаецца не з адных толькі беларусаў, але і з вялікай часткі такіх, што лічаць сябе за расейцаў, казаньні гаворацца ў царкве ў дзьвюх мовах: беларускай і расейскай».

Манастырскай моладзі разам са славянскай і лацінскай мовамі выкладалася беларуская. Маладыя манахі стварылі свой гімн «Мы сьветачы праўды ў краях заходніх, мы новага заўтра зара...»

«Ад першага погляду на прысутную тут моладзь можна пазнаць дух узаемнай міласьці і пашаны чужых сабе народаў. Кожны цікавіцца ўзаемным пазнаньнем звычаяў, традыцый і поглядаў дадзенага народу... Наогул, можна адзначыць, што ўсе мовы ў кляштары маюць роўныя правы, кожную можна ўжываць. За сталом сьв.Пісаньне чытаецца па-славянску, а іншыя разы па-расейску або па-беларуску... Гэтак званыя рэкрэацыі, або абавязковыя гадзінныя разгаворы па абедзе і вячэры, некалькі разоў у тыдні бываюць абавязкова па-беларуску і па-расейску, іншыя разы, як хто хоча», - пісаў пра звычаі Альберцінскага манастыра ксёндз А.Станкевіч.

Пры манастыры адкрылі чытальню і бібліятэку, пачаў працу тэатральны гурток.

У 1936 годзе езуіты пачалі будову царквы: лацінскага касьцёла, на што ў Альберціне ваяводзтва і асабіста граф Пуслоўскі, які раней даў манастыру зямлю і будынак, ахвяравалі дрэва і цэглу. Сьвятыні былі адчынены ў пачатку 1939 году.

Пры манастыры ў студзені 1936 году было арганізавана Апостальства Малітвы ў форме мужчынскага брацтва пры парафіі альберцінскай царквы. Мэтай яго быў актыўны ўдзел сяброў у жыцьці парафіі, апостальства слова і прыкладу ў колах недобразычліва настроеных да вуніі і ўласнае захаваньне згодна з каталіцкімі правіламі і жыцьцём Касьцёлу. З гэтай мэтай сябры зьбіраліся раз у два тыдні, у нядзелі, на зборы, на якіх пасьля кароткай уступнай бяседы кіруючага сходам айца пачыналіся невялікія рэфераты, прыгатаваныя самастойна, звычайна два або тры, пасьля якіх узьнікала цікавая, часам, ажыўленая дыскусія.

Была ўтворана ў тым самым годзе арганізацыя, падобная да сусьветнай дзіцячай арганізацыі «Рыцарства Ісусава». Называлася яна «Гвардыя Крыжа». Па сваёй форме яна нагадвала сёньняшні скаўцкі рух. Каб належаць да «Гвардыі», трэба было толькі верыць у Бога.

Але ў «Гвардыю» прымалі толькі старэйшых хлопцаў. Што ж датычыцца падлеткаў-дзяўчын, то для іх існавала Апостальства Малітвы Маці. Для дзяцей школьнага ўзросту - «Круцыята Эўхарыстычная», а для дзяцей наймалодшых - «Гурток Анёлаў Стражаў».

Царкоўны хор «Круцыяты» меў вялікі посьпех у Альберціне і ў навакольлі, яго запрашалі на рэлігійныя сьвяты і канцэрты.

Тут пачаў выходзіць беларускі вуніяцкі часопіс «Да злучэньня», рэдактарам якога быў айцец Антон Неманцэвіч. Адначасова ён зьяўляўся пробашчам усходнекаталіцкай парафіі. І некаторы час імя гэтага знакамітага рэлігійнага дзеяча было зьвязана з Альберцінам. Першы нумар часопіса выйшаў у студзені 1932 году. На пачатку рэдакцыя часопіса мела нямала супрацоўнікаў, аднак у далейшым большую частку артыкулаў прыходзілася пісаць самому рэдактару.

Тым часам умовы вунійнай працы станавіліся ўсё цяжэйшымі і цяжэйшымі. Ад 1932 году ў Заходняй Беларусі не адчынілі ніводнай новай вунійнай пляцоўкі, а нават некаторыя з тых, што былі адчынены да гэтага часу, паволі ліквідавалі.

У 1938 годзе быў спынены выхад часопіса «Да злучэньня» толькі таму, што ён выдаваўся па-беларуску. Альберцінскі манастыр быў заўсёды абстаўлены шпігунамі, якія сачылі за кожным, хто сюды прыязджаў, а нават некаторых адведвальнікаў паліцыя затрымлівала і пасьля допытаў у Слоніме хутка высылала, з папярэджаньнем больш не паказвацца ў Альберціне.

Прыдзірлівасьць польскай адміністрацыі да ўсходнекаталіцкіх сьвятароў і парафіяў мела на мэце адахвоціць ад ўсялякай дзейнасьці і праз гэта давесьці парафіі да заняпаду, але сваёю нахабнасьцю гэтыя прыдзіркі выклікалі агульнае абурэньне. Урэшце нават былыя ворагі ўсходняга каталіцтва пачалі ня толькі гаварыць, але і пісаць пра скандальныя паводзіны адміністрацыі.

Прычыны варожасьці польскага ўраду і адміністрацыі да ўсходняга каталіцтва былі ясныя: яно стала перашкодай для паланізацыі. Гэты факт мусяць сьцьвердзіць нават людзі скрайне варожыя да каталіцтва. У «Dzienniku Wilenskim» выразна пісалася, што «Крэсы Усходнія... гэта сфера нашай культурнай экспансіі і тут якія б не былі намеры вуніяцкага сьвятара, яны павінны сустрэцца з нашым самым рашучым і рэзкім запярэчаньнем».

І так цяжкая рэлігійная праца сталася яшчэ цяжэйшаю ад верасьня 1939 году, калі Заходняя Беларусь увайшла ў склад БССР. Адразу частка ўсходніх парафіяў была зьліквідавана, а другая частка была пад пагрозаю ліквідацыі з прычыны немагчымасьці аплочваць вялікія падаткі.

Пасьля надыходу савецкай улады манахі Альберцінскага манастыра спрабавалі ўцячы. Многія былі схоплены, іншых, як амерыканца Цішака, выдалі польскія ўлады, у выніку Цішак быў засуджаны да 25 гадоў лагераў. Застаўся адзін Антон Неманцэвіч, які вёў службу да арышту немцамі ў 1942 годзе.

Але і ў такіх, мякка кажучы, неспрыяльных варунках вуніяцкі рух працягваў існаваць. 9 красавіка 1939 году мітрапалітам Шэптыцкім былі ўстаноўлены 4 экзархаты. Антон Неманцэвіч быў прызнаны беларускім экзархам. 22 лістапада 1941 году папа Пій XII зацьвердзіў гэтае рашэньне.

Для належнай працы неабходна было мець адпаведныя кадры, што, на жаль, было самай вялікай праблемай, бо і так нешматлікія кадры, якія працавалі на Заходняй Беларусі да 1939 г., у час вайны значна зьменшыліся. У вырашэньні гэтага складанага пытаньня павінен быў бы дапамагчы Альберцінскі манастыр. Але ўстанаўленьне беларускага экзархату Грэка-Каталіцкай царквы, як заўсёды, выклікала супраціўленьне праваслаўнага духавенства і актыву. Кожны крок у дзейнасьці экзарха суправаджаўся даносамі ў нямецкае гестапа. У выніку, летам 1942 году Неманцэвіч быў арыштаваны без аніякага, хаця б фікцыйнага, абвінавачваньня. І замест абяцанага вызваленьня экзарха нямецкае гестапа прысьпешным тэмпам праводзіла поўную ліквідацыю Экзархату. І калі ў канцы верасьня ў Альберцінскім манастыры зьявіўся адзін з намесьнікаў экзарха - Леў Гарошка, - каб, прынамсі, часова абслугоўваць тамтэйшую парафію, дык у Слонімскім Гэбітскамісарыяце яму было загадана неадкладна вярнуцца туды, адкуль прыехаў. За невыкананьне загаду пагражалі недвухсэнсоўным «строгім пакараньнем». Праз пару тыдняў пасьля гэтага вывезьлі ў Нямеччыну вялікую частку альберцінскіх парафіян і настаўніка школы, а царкву зачынілі.

Дзе і як загінуў а.Антон Неманцэвіч - да гэтага часу не ўдалося атрымаць пэўных зьвестак. А Альберцінскі манастыр быў разагнаны і парафію зьліквідавалі. Усяго ж за 1926-32 гады ў Альберціне прайшлі падрыхтоўку і былі накіраваныя ў іншыя ўсходнія епархіі звыш 60 місіянераў, калі не лічыць 30 манахаў вуніяцкага манастыра.

Вынік, безумоўна, неадэкватны тым высілкам, якія палажылі людзі, адданыя справе адраджэньня нацыянальнай царквы. І зразумела, чаму атрымалася так. Ніколі, можа за выключэньнем першага стагоддзя з часу ўтварэньня царкоўнай Вуніі, ня мела яна спрыяльных умоваў для паўнакроўнай сваёй дзейнасьці, хаця і змагла стаць верай трох чвэртак усіх жыхароў Беларусі ў канцы XVIII стагоддзя. Але вернемся ў стагоддзе нашае... У 1946 годзе Савецкімі ўладамі вунія была забаронена. Беларусь пазбавілі народнай рэлігіі, зноў падзялілі людзей на каталікоў і праваслаўных. Вось адна з галоўных прычын слабой нацыянальнай кансалідацыі, трагічныя наступствы якой мы перажываем сёньня.

**Ірына ЧЫГІР.**

# НАСУПЕРАК СТЭРЭАТЫПАМ

**Накладам усяго ў 100 асобнікаў у Горадні выйшаў у сьвет навучальны дапаможнік «Асноўныя этапы беларускай дзяржаўнасьці».**

З-за сваёй унікальнасьці і каштоўнасьці паданы матэрыял стане сапраўдным падарункам для ўсіх аматараў гісторыі Беларусі. Да нядаўняга часу навуковыя дасьледаваньні па гісторыі беларускай дзяржаўнасьці ня толькі не вяліся, але і былі немагчымымі, бо супярэчылі Канстытуцыі БССР 1978 году, у якой сьцьвярджалася, што беларусы здабылі сваю дзяржаўнасьць толькі ў 1917 годзе. Насуперак гэтаму падыходу, аўтары, вядомыя гарадзенскія навукоўцы М.Сільчанка і І.Басюк у сваім дапаможніку пераканаўча паказалі наяўнасьць шматвекавой гісторыі беларускай дзяржаўнасьці.

У першым разьдзеле «Вытокі беларускай дзяржаўнасьці» аўтары ўносяць пэўныя карэктывы ў храналагічны падзел гісторыі дзяржавы, дадзены ў 20-я гады XX ст. У.Ігнатоўскім, аналізуюць пытаньні зьяўленьня назвы Беларусь.

Вельмі грунтоўны аналіз разьвіцьця беларускай дзяржавы пры вельмі сьціслым аб'ёме робіцца ў разьдзеле «Вялікае княства Літоўскае – беларуска-літоўская дзяржава». Тут абгрунтоўваецца факт, чаму менавіта Наваградскае княства стала цэнтрам палітычнага жыцьця на беларускіх землях у XIII ст., чаму ў адрозьненьне ад Маскоўскай Русі, дзе склалася і з гадамі ўзмацнялася абсалютная манархія цара-самадзержца, на Беларусі ішоў адваротны працэс? Проста і зразумела для чытача ў разьдзеле вытлумачаны розныя аспекты грамадзкага ладу ВКЛ, яго зьнешняй палітыкі і г.д.

Трагічная карціна заняпаду беларускай дзяржаўнасьці адлюстравана ў разьдзеле «Паўночна-Заходні край Расейскай імперыі».

У разьдзеле «Беларусь у складзе СССР» паказаны падзеі ад пачатку Лютаўскай рэвалюцыі да 1990 году, у якім была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце. Шмат увагі ў разьдзеле надаецца гісторыі БНР, стварэньне якой аўтары лічаць «пэўным крокам, памкненьням да аднаўленьня нацыянальнай дзяржаўнасьці, якія ў тагачасных гістарычных умовах рэалізавацца не змаглі. Разам з тым, М.Сільчанка і І.Басюк не падзяляюць распаўсюджаную сёньня думку, што створаная бальшавікамі, як альтэрнатыва БНР, БССР мела рэальны суверэнітэт у складзе СССР.

Па словах саміх аўтараў, сьціслы аб'ём прапанаваных чытачу дасьледаваньняў ня можа прэтэндаваць на дастатковую паўнату асьвятленьня выбранай імі праблемы. Па зьвестках «ПАГОНІ», абодва навукоўцы працуюць зараз над грунтоўнай манаграфіяй на гэтую тэму. А таму будзем чакаць ад іх адкрыцьця новых цікавых старонак гісторыі нашай дзяржавы.

**Вітаўт РУДНІК.**

# НАШ КАЛЯНДАР

**5 кастрычніка**

**1460 г.**(дата спрэчная) Нарадзіўся Аляксандр І Ягелончык, вялікі князь з 1492 году (абраны на гарадзенскім сойме). Надаў Горадні поўнае магдэбургскае права.

**6 кастрычніка**

**1876 г.** У Асташыне (Наваградзкі раён) нарадзіўся (120 гадоў таму) Ян Булгак, вядомы этнограф, краязнавец, фотамастак.



**1890 г.** У Горадні нарадзіўся Лейб Найдус, выбітны яўрэйскі паэт і перакладчык, аўтар чатырох літаратурных зборнікаў.

**7 кастрычніка**

**1765 г.** Нарадзіўся Міхал Клеафас Агінскі, знакаміты кампазітар, палітычны дзеяч, удзельнік касьцюшкаўскага паўстаньня. Пасьля вяртаньня з эміграцыі жыў у сядзібе Залесьсе (на Смаргоншчыне), дзе стварыў адзін з найпрыгажэйшых палацава-паркавых комплексаў.



**10 кастрычніка**

**1916 г.** У вёсцы Запольле нарадзілася Ніна Тарас (спаўняецца 80 гадоў), вядомая паэтка. Вучылася ў Наваградзкай гімназіі, значны час жыла ў Лідзе.

**11 кастрычніка**

**1838 г.** Нарадзіўся Ян Ванькавіч (сын славутага мастака), актыўны ўдзельнік збройнага чыну 1863 году (выступаў пад псеўданімам Ляліва). Пазьней з дапамогай Э.Ажэшкі эміграваў у Аўстра-Вугоршчыну.

**Падрыхтаваў Ул.ХІЛЬМАНОВІЧ.**

# КРЫЖАВАНКА

*Перакладзі на беларускую мову*



**Склаў Сяргей ГРЫНЬ.**

**Па гарызанталях:** 3.Жажда. 4.Ворота. 6.Сыпь. 9.Камыш. 10.Кровать. 12.Жишель. 13.Цвет. 14.Ромашка. 16.Винт. 17.Колыбель. 19.Баня. 21.Цикл. 27.Часовня. 28.Звезда. 30.Хлопанье. 31.Отсчет. 32.Крючок. 33.Аир. 34.Работа. 35.Выбор.

**Па вертыкалях:** 1.Селезень. 2.Утро. 5.Ежевика. 6.Усталость. 7.Течение. 8.Почва. 9.Чебрец. 11.Корзина. 14.Грабеж. 15.Родник. 16.Бешенство. 18.Оса. 20.Осока. 22.Угол. 23.Согласие. 24.Зной. 25.Вихрь. 26.Пахарь. 29.Отчаяние. 30.Цифра.

**Адказы на крыжаванку, зьмешчаную ў папярэднім нумары**

**Па гарызанталі:** 3.Еўропа. 5.Статут. 9.Магнета. 11.Маньяк. 12.Арарат. 13.Кадрыля. 18.Дрэва. 19.Кліка. 21.Імідж. 22.Паланез. 23.Маёнтак. 27.Брава. 28.Крама. 29.Скіба. 31.Гігіена. 35.Мускат. 36.Свідар. 37.Харызма. 38.Натрый. 39.Андора.

**Па вертыкалі:** 1.Кумпяк. 2.Курорт. 4.Прага. 6.Тытул. 7.Анархія. 8.Карыда. 10.Каложа. 14.Дэканат. 15.Шакалад. 16.Гімнаст. 17.Нікацін. 19.Клерк. 20.Атака. 24.Абажур. 25.Пазітыў. 26.Тамтам. 30.Пастар. 32.Інары. 33.Неман. 34.Квадра.

# «КСЭРАКС БЕЛАРУСКІ» N6

**Напрыканцы мінулага тыдня выйшаў з друку шосты нумар штогадовага альманаха Таварыства Вольных Літаратараў(ТВЛ) «КСЭРАКС БЕЛАРУСКІ».**

У адрозьненьне ад папярэдніх выпускаў выданьне мае добрую паліграфічную якасьць і, здаецца, неблагія перспектывы. Рэч у тым, што сябры ТВЛ часова спынілі выпуск «Ксэракса Беларускага», аддаўшы перавагу больш прывабнаму і салiднаму «КАЛОСЬСЮ». Аднак, зважаючы на агульны крызіс айчынных літвыданьняў, паўстала патрэба ў невялікім малатыражным часопісе, які б апэратыўна друкаваў найноўшыя творы незалежных беларускіх літаратараў.

Шосты нумар «Ксэракса Беларускага» вылучаецца жанравай разнастайнасьцю. Тут, акрамя паэзіі і прозы Сержука Сокалава-Воюша, Алеся Аркуша, Ігара Сідарука, Ільлі Сіна, Ігара Бондара-Цярэшчанкі, Сяргея Патаранскага зьмешчаны пад назвай «Містыка» успаміны колішняга лідара гарадзенскага клуба «ПАХОДНЯ» Віктара Варанца пра тое, як у пачатку 1980-х студэнты філфаку Гарадзенскага дзяржуніверсітэту падпольна выдавалі літаратурна-мастацкага альманах. У разьдзеле «Архіў» друкуюцца прыватныя лісты зьбіральніцы спадчыны Уладзіміра Караткевіча Галіны Пойманавай. Цікавасьць выклікае эсэістыка Ігара Бабкова(«Паэзія - практыкаваньні ў хаосе»), Славаміра Адамовіча(«Нацыяналізм як эстэтыка-культурная перспэктыва»), Сяргея Шыдлоўскага(«Балотны агмень») і Алеся Аркуша(«Зыход з культурніцкай рэзервацыі»).

**Ігар ГАНДЛЕЎСКІ.**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# НА ФЕСТЫВАЛЬ З "ЦУДОЎНАЙ ДУДКАЙ"

**3-6 кастрычніка Гарадзенскі абласны тэатр лялек удзельнічае ў Міжнародным фестывалі тэатраў памежных гарадоў «Белая Вежа-96». Напярэдадні фестывалю наш карэспандэнт сустрэўся з галоўным рэжысёрам тэатру Міколам АНДРЭЕВЫМ.**



***- Спадар, Мікола, з якім пачуцьцём вы едзеце на фестываль у Берасьце?***

- Вядома, з пачуцьцём радасьці, бо будзем граць на Фестывалі сьпектакль для дзяцей паводле п'есы В.Вольскага «Цудоўная дудка». Дый, увогуле, цікава, што прапануюць нашым маленькім гледачам госьці з Польшчы, Расеі і Украіны.

***- А як жа са сьпектаклямі для дарослых, напрыклад, с «Тутэйшымі» паводле Я.Купалы?***

- «Тутэйшыя» практычна адсутнічалі на сцэне нашага тэатра два гады, бо зьехаў у Санкт-Пецярбург актор Іван Цімохін, які граў адну з галоўных роляў у гэтым сьпектаклі. І вось 20 верасьня «Тутэйшыя» зноўку ажылі на нашай сцэне. Самае цікавае, што за два гады амаль цалкам зьмяніўся сэнс п'есы і, адпаведна, рэакцыя публікі. «Тутэйшыя» сёньня як ніколі актуальныя!

***- Ці пабачаць гарадзенцы ў гэтым годзе якую новую пастаноўку?***

- Зараз праца ідзе над п'есай для дзяцей «Чароўная лямпа Аладзіна». Так што хутка запросім гледачоў на прэм'еру.

**Гутарыў Людвік САРОКА.**

# КІНААФІША ГОРАДНІ



**«ГРОДНА»:** 4,5,6 кастрычніка - «Касьмічная заварушка» - 9.50, 11.40, 13.30, 15.20, 17.20, 19.10, 21.00. ВІДЭА: 4 кастрычніка - «Касьмічны паляўнічы» - 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00.

**«КАСТРЫЧНІК»:** 4,5,6,7 кастрычніка - «Паварот лёсу» - 10.00 (ільготны), 11.50, 13.40, 15.30. «Карабель «Анжэліка» - 15.00, 17.00, 19.00, 21.00. «Золата Макены» (2 серыі) - 15.20, 17.20. «Сэкстое пачуцьцё» - 19.20, 21.00. ВІДЭА: «Дзікі Біл» (баявік) - 15.00. «Сьпіна да сьпіны» (баявік) - 16.50. «Залатое вока» - 18.40, 20.30. КІНО-ДЗЕЦЯМ: 5 кастрычніка - «Сабака ў скрыні» (Балгарыя) - 12.00. «Прыгоды мышынага сышчыка» (мальтф.) - 13.30. 6 кастрычніка -»Ералаш» (сьпецвыпуск) - 12.00. «Каты-арыстакраты» (мальтф.) - 13.30. Школьная дыскатэка - 18.30. НАЧНЫ КЛУБ: штодзённа музычна-забаўляльная праграма - 22.00 (панядзелак і аўторак -выходныя).

**«ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА»:** 4 кастрычніка - «Разгневаны бягляк» (баявік) -12.10, 16.30, 20.50. «Элетра» (фант.трылер) - 14.20, 18.40. «Логава зьмяі» (жахі) - 11.20, 13.50. «Салон Куці» (эротыка, да 18 гадоў) -16.00, 20.00. «Мастацтва каханьня» - 18.00.

**імя ПУШКІНА:** 4 кастрычніка - «Гульня сьмерці» (баявік) - 10.00, 13.40, 17.20. «Вяртаньне дракона» - 11.50, 19.10. «Неверагодныя прыгоды» - 15.30. Дыскатэка - 21.00.

**«КОСМАС»:** аўтаадказчык - **44-01-81.**

**«УСХОД»:** аўтаадказчык - **47-81-29**

# У ДАНІІ ВЕДАЮЦЬ,
## ШТО ЎПРЫГОЖЫЦЬ ГОРАДНЮ

**Як ужо паведамляла «ПАГОНЯ», у жніўні ў Даніі з фурорам прайшлі канцэрты гарадзенскага хору «Бацькаўшчына». На гэтым тыдні дацкія сябры «Бацькаўшчыны» наведалі Горадню. Пры гэтым - не з пустымі рукамі.**

Лютаранскі пастар Эрык Ланкер, па запрашэньні якога гарадзенскія сьпевакі гасьцявалі ў Даніі, прыехаў разам з сваімі сябрамі па Лізе сацыяльнай абароны насельніцтва з грузам гуманітарнай дапамогі. У сваім родным Колдзінгу гэтая дабрачынная арганізацыя вучыць школьнікаў ратавацца і дапамагаць іншым у эксрэмальных сітуацыях (напрыклад, абараняцца ад гвалтаўнікоў). Пад час гастроляў і харысты «Бацькаўшчыны» прайшлі практычную падрыхтоўку - вучыліся тушыць пажары.

У Горадню Эрык Ланкер і яго сябры прывезьлі з сабой інвалідзкія каляскі, кастылі ды іншыя прылады для людзей, трапіўшых у бяду. Сваю дабрачынную дзейнасьць госьці з Скандынавіі ацэньваюць сьціпла: *«Мы - простыя маленькія рабачкі. Наша дапамога - кропля ў моры».*

Пад час сяброўскай размовы ў «Батлейцы» сп.Ланкер падзяліўся таксама сваімі ўражаньнямі ад знаходжаньня ў Беларусі і Горадні.

*«...У вас зараз халодная зіма. Але за ёй абавязкова надыйдзе цёплае лета... Беларуская мытня - гэта жах. Каб не перакладчыца з сваім мужам ды айцец Анатоль з Каложы, мы б не праехалі... Горадня -горад вельмі прысожы. Але быў бы яшчэ прыгажэйшым, каб зьнялі Леніна і на яго месца паставілі помнік прыгожай беларускай дзяўчыне...»*

У першы дзень кастрычніка сьпецыяльна для гасьцей, якія ўжо назаўтра мусілі ад'язджаць дамоў, у «Батлейцы» сьпявалі і гралі знакамітыя «Дударыкі». Цёплыя словы падзякі казалі сьпевакі «Бацькаўшчыны» ды іншыя ўдзельнікі сустрэчы, якая, па ўзаемным меркаваньні, наўрад ці будзе апошняй.

**Вітаўт РУДНІК.**

# СПАРТЫЎНАЕ АСАРЦІ

**Падобна на тое, што эпіцэнтр спаборніцтваў па гульнёвых відах спорту зараз перамясьціўся з сталіцы ў горад над Нёманам. Сьведчаньнем таму процьма разнастайных матчаў за апошні месяц. Прыкра толькі тое, што каляспартовае чынавенства ня здольнае нават варухнуць пальцам, каб разьвесьці на іншы час розныя спаборніцтвы. Так, у апошнюю суботу верасьня адзін на адно «накладаліся» валейбол, баскетбол і футбол. У выніку, ня ўсё патрапіла ў наш сёньняшні агляд.**

CEV

**Беларусь-Францыя - 3:1 (17:15, 10:15, 15:2, 15:11)**

Цэнтральнай дзеяй «гарачага» дня стаўся адборачны матч валейбольнага чэмпіянату сярод жанчын. У сустрэчы з фаварыткамі групы - францужанкамі беларускія спарцмэнкі выявілі лепшыя валявыя і майстэрскія якасьці, здабыўшы надзвычай важную перамогу. Гарадзенскі комплекс «Вікторыя» сапраўды спраўджвае сваю назву.

Між тым, першыя два сэты выклікалі значныя сумневы наконт удалага зыходу. У стартавай партыі францужанкі амаль не памыляліся і захапілі ініцыятыву. Ударна «малаціла» Ірына Гарбацюк (былая жыхарка Беларусі, зьмяніўшая грамадзянства). У нашых жа разладзіўся прыём. Першай схамянулася Марына Клемезь (дарэчы, мясцовая выхаванка), яе высілкі падтрымала Тацьцяна Іўкава і ўрэшце сэт застаўся за беларускамі. Пасьля другога лік параўняўся - 1:1. Кульмінацыя і разьвязка наступілі ў трэцім - дэмаралізаваныя госьці элементарна «пасыпаліся». Рэч у тым, што не пайшла гульня ў Гарбацюк, чым беларускі трэнер Анатоль Сьцяпашка і яго дружына пісьменна скарысталіся. Заключная партыя была дастаткова зацятая і ўсё ж перамаглі нашыя. Такім чынам, зборная Беларусі займела даволі неблагія шанцы на перамогу ў кваліфікацыі. Сёньня гуляецца сустрэча ў адказ у Рэне (Францыя). Нават у выпадку паразы (з меншым, безумоўна, лікам) персьпектыва добрая - застануцца матчы з яўнымі аўтсайдэркамі групы - югаслаўкамі.



**«Гродна-93» - «Сож» (Гомель) - 97:82 (самыя выніковыя ў гарадзенцаў: Качан - 21, Маклакоў - 19, Чарняк - 17) і 91:84 (Шарко-26, Качан -19, Чарняк - 16)**

Распачаўся 5-ы нацыянальны чэмпіянат па баскетболе. Чэмпіёны краіны ў стартавых паядынках прымалі на сваёй пляцоўцы гомельцаў. Страціўшы цэлы квартэт з стартавага складу (Альшэўскі, Васілеўка, Грыгор'еў, Гладкі) Яўген Кец (інтэрв'ю з ім чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў) змушаны па-сутнасьці ствараць новую каманду, канструяваць іншыя тактычныя схемы. Паўнавартасных гульцоў зараз у клубе толькі 6-7 чалавек, ўная праблема - кароткая лаўка запасных. Што і пацьвердзілі ўжо першыя сустрэчы.

Больш захапляльным выдаўся паўторны матч. На перапынак супернікі выправіліся пры ліку 40:35 на карысьць гаспадароў. А ў другім тайме на гарадзенцаў стаў ціснуць груз фалоў. Гасьцям нават удалося параўняць лічбы на табло - 72:72. Праз хвіліну пятае папярэджаньне атрымлівае Уладзімір Кец. Тут жа Віталь Маклакоў марнуе два штрафных, але сам і рэабілітуецца далёкім кідком. Качан і Шарко падхопліваюць парыў і чэмпіёнаў ужо не стрымаць. Сапраўдным лідарам выявіў сябе Уладзімір Шарко, нягледзячы на тое, што гуляў пасьля траўмы. А вось выніковая гульня Юры Качана стала прыемным адкрыцьцём. Што і зьявілася нагодай для экспрэс-каментару:

***- Юры, вы моцна прыбавілі ў міжсезоньні. Чым тлумачыце такі рост?***

- Стала лягчэй гуляць псіхалагічна, паступова адчуваю сябе гульцом асновы. З іншага боку, пакуль бракуе фізічных кандыцыяў.

***- Ці спадзяецеся на ўзнагароды чэмпіянату?***

- Настрой у нас вельмі рашучы, упэўнены. Калі хопіць сілаў, будзем прэтэндаваць на самыя высокія месцы.

**Заўтра і пасьлязаўтра «Гродна-93» прымае ў залі універсітэту (вуліца Захарава) сталічны «Аўтазаводзец». Пачатак гульняў а 17-й і 11-й гадзінах.**



**"Нёман"- "Абутніік" – 1:1**

Становішча «у хвасьце» турнірнай табліцы змушала абодва клубы гуляць на перамогу.

Ініцыятывай пераважна валодалі нёманцы - ужо на першых секундах галкіпер гасьцей Бурнос двойчы нагамі (!) адбіваў небясьпечныя ўдары. А лепшыя фрагменты ў матчы гарадзенцы «выдалі» з 20-й па 30-ю хвіліны. У адным з эпізодаў пасьля ўдару галавой стопера Касюка, Бурнос ледзь перавёў мяч над перакладзінай. І тут жа, пасьля кутняга брамнік лідчукоў памыліўся на выхадзе - той жа Касюк па гандбольнаму перапрaвіў мяч у сетку. Адыграліся госьці на зыходзе тайму - Юры Раманоўскі моцна прабіў з-за межаў штрафной, мяч зрыкашэтаваў, а Рыбак, па заганнай звычцы, выйшаўшы далёка наперад, апынуўся ў «мёртвай» зоне. Заўважым, што гэта быў першы гол «Абутніка» за ўсе нацыянальныя чэмпіянаты на нёманскім полі.

Пасьля 24 туру становішча абодвух клубаў застаецца крытычным - «Нёман» на трынаццатым радку, «Абутнік» - перадапошні.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ.**

# ГРЭКА-РЫМСКАЕ ШОЎ

6 кастрычніка ў спартыўнай зале па вул.Урублеўскага,1-а пройдзе першая чвэрцьфінальная сустрэча Кубку Эўропы па грэка-рымскай барацьбе паміж гарадзенскім «Універсітэтам - ШВСМ» і камандай Масквы. Як паведаміў «ПАГОНІ» галоўны трэнер гарадзенцаў Вячаслаў Максімовіч, «у складзе гасьцей што не чалавек - то «зорка». Але і нашыя Паўлаў, Ціленьць і К ня лыкам шытыя. А таму гледачоў чакае сапраўднае шоў. Пачатак сустрэчы - а 12-й гадзіне.

**Вітаўт РУДНІК.**

# ЗДАРЭНЬНІ

## А МАЦІ НЯ ВЕРНЕШ...

Страшная трагедыя скалыхнула ў канцы мінулага тыдня Астравец. Па дарозе з бульбяных палеткаў у раённы цэнтр пры абгоне ў аварыю трапіў легкавік, якім кіраваў 17-гадовы юнак, выпускнік (залаты медаліст) адной з астравецкіх школаў. У выніку здарэньня адна з пасажырак загінула. Воляй лёсу, ахвярай аварыі стала маці кіроўцы...

За апошнія месяцы гэта ўжо другая падобная сямейная трагедыя на Астравеччыне. Зусім нядаўна ў адной з вёсак дзед, разгружаючы з трактара сена, выпадкова засыпаў свайго 5-гадовага ўнука.

**В.ДРЭМА.**

## СЬМЯРОТНЫ АБГОН

**Жыцьці трох чалавек забрала аварыя, якая здарылася на шашы Менск-Горадня.**

Жыхар сталіцы па дарозе ў абласны цэнтр, кіруючы «жыгулямі», пры абгоне грузавіка выехаў на паласу сустрэчнага руху, па якой імчаў «Мэрсэдэс». У выніку здарэньня загінулі кіроўца «Жыгулёў», яго маці і студэнтка БДУ, якія ехалі ў легкавіку.

Кіроўца іншамаркі моцна не пацярпеў. Але яго «Мэрсэдэс», дарэчы, якім ён кіраваў па даверанасьці, пасьля сутыкненьня загарэўся. Полымя ўдалося затушыць толькі з дапамогай праязджаючых побач ў гэты час кіроўцаў і выклікаых пажарнікаў.

Па факту аварыі Лідзкім ГРАУС праводзіцца расьследаваньне.

**А.ДУК.**

## АСЬЦЯРОЖНА, ФАЛЬШЫЎКА!

25 верасьня жыхарка пасёлка Фабрычны набыла ў невядомых на вул.Ажэшка ў Горадні 250 «зялёных» 50-даляравымі купюрамі. Грошы аказаліся фальшывымі. На сапраўдных 5-даляравых купюры былі наклееныя цыфры 50, на партрэт прэзідэнта Лінкольна - партрэт Гранта, зьменены надпісы.

Два тыдні назад падобную купюру спрабавау абмяняць ў абменным пункце навучэнец вучылішча мастацтваў.

Невядома, колькі яшчэ фальшывых 50-даляравых ходзяць сярод жыхароў і гасьцей Горадні.

**Д.К.**

## САЛОДКІ КРАДЗЁЖ

Сем вульляў з пчоламі скрадзены ў аднаго з жыхароў Ліды з лецішча ў Навасёлках. Міліцыя вядзе вышук.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

# АЎТАРЫНАК



**КОШТЫ АЎТАМАБІЛЯЎ НА БІРЖЫ Ў БЕЛАСТОКУ на мінулым тыдні. Цэны пададзены ў тысячах новых злотых.**

**Курс злотага да даляра складае $1 = zl. 2,79**

Лада, 1993 г.в., zl. 13,8
Лада, 1992 г.в., zl. 12,3
Лада, 1991 г.в., zl. 10,4-11,2
Лада-Самара, 1994 г.в., zl. 17,0
Лада-Самара, 1992 г.в., zl. 13,2
Лада-Самара, 1991 г.в., zl. 11,0-12,8
Таўрыя, 1994 г.в., zl. 10,8
Таўрыя, 1992 г.в., zl. 7,0-7,2
Таўрыя, 1991 г.в., zl. 6,3-7,0
Паланэз, 1996 г.в., zl. 20,0-21,5
Паланэз, 1995 г.в., zl. 17,6 -19,0
Паланэз, 1994 г.в., zl. 15,2-16,3
Паланэз, 1993 г.в., zl. 11,5-13,8
Паланэз, 1992 г.в., zl. 10,5-12,6
Фіат-Пунта, 1996 г.в., zl. 29,0
Фіат-Пунта, 1995 г.в., zl. 28,0
Фіат-Пунта, 1994 г.в., zl. 24,7
Фіат-Уна, 1995 г.в., zl. 22,2
Фіат-Тыпо, 1990 г.в., zl. 16,8
Фіат-Тыпо, 1989 г.в., zl. 16,5
Фіат-Тэмпра, 1995 г.в., zl. 28,0
Фіат-Крома, 1991 г.в., zl. 21,0
Фіат-Крома, 1990 г.в., zl. 14,0
Альфа-Рамэа, 1994 г.в., zl. 46,0
Фальксваген-Гольф, 1995 г.в., zl. 40,0
Фальксваген-Гольф, 1994 г.в., zl. 36,0
Фальксваген-Гольф, 1993 г.в., zl. 29,5
Фальксваген-Гольф, 1992 г.в., zl. 30,0
Фальксваген-Вента, 1993 г.в., zl. 37,0
Аўдзі 80, 1993 г.в., zl. 39,0
Аўдзі 80, 1991 г.в., zl. 24,7
Аўдзі 80, 1990 г.в., zl. 25,0
Аўдзі 80, 1989 г.в., zl. 23,0
Аўдзі 80, 1988 г.в., zl. 18,5
Аўдзі 80, 1986 г.в., zl. 11,1
Аўдзі 100, 1994 г.в., zl. 56,0
БМВ 316, 1989 г.в., zl. 20,0
БМВ 318, 1991 г.в., zl. 35,0
БМВ 318, 1987 г.в., zl. 16,5
Мэрсэдэс 190, 1990 г.в., zl. 30,0
Мэрсэдэс 190, 1987 г.в., zl. 24,5
Мэрсэдэс 190, 1986 г.в., zl. 20,0
Мэрсэдэс 200, 1990 г.в., zl. 36,0
Мэрсэдэс 200, 1989 г.в., zl. 29,0
Мэрсэдэс 200, 1987 г.в., zl. 28,5
Опель-Аскона, 1988 г.в., zl. 13,5
Опель-Вектра, 1995 г.в., zl. 44,0
Опель-Вектра, 1993 г.в., zl. 33,0
Опель-Вектра, 1990 г.в., zl. 22,5
Опель-Вектра, 1989 г.в., zl. 21,5
Мазда 323, 1991 г.в., zl. 21,0
Мазда 323, 1990 г.в., zl. 19,5
Мазда 626, 1992 г.в., zl. 33,0
Мазда 626, 1991 г.в., zl. 24,2
Мазда 626, 1990 г.в., zl. 20,5
Мазда 626, 1988 г.в., zl. 17,0
Мазда 626, 1987 г.в., zl. 15,5
Мазда-Кронас, 1995 г.в., zl. 65,0
Нісан-Сані, 1994 г.в., zl. 29,5
Нісан-Сані, 1993 г.в., zl. 26,8
Нісан-Сані, 1990 г.в., zl. 13,9
Нісан-Сані, 1988 г.в., zl. 14,0
Нісан-Прэм'ера, 1994 г.в., zl. 38,0
Нісан-Прэм'ера, 1991 г.в., zl. 28,5
Форд-Фіеста, 1991 г.в., zl. 16,0
Форд-Фіеста, 1989 г.в., zl. 15,5
Форд-Эскорт, 1991 г.в., zl. 18,5
Форд-Эскорт, 1988 г.в., zl. 14,2
Форд-Сьера, 1991 г.в., zl. 21,7
Форд-Мандэа, 1993 г.в., zl. 37,0
Форд-Скорпіа, 1991 г.в., zl. 22,5
Форд-Скорпіа, 1990 г.в., zl. 18,3
Форд-Скорпіа, 1986 г.в., zl. 13,0
Пежо 205, 1991 г.в., zl. 12,8
Пежо 205, 1986 г.в., zl. 8,5
Пежо 306, 1995 г.в., zl. 34,0
Сітраэн АХ, 1988 г.в., zl. 12,5
Сітраэн ZX, 1993 г.в., zl. 19,5
Сітраэн ВХ, 1987 г.в., zl. 13,0
Сітраэн ВХ, 1986 г.в., zl. 8,5
Сітраэн-Ксаньція, 1993 г.в., zl. 41,0
Сітраэн ХМ, 1992 г.в., zl. 38,0
Рэно-Кліа, 1994 г.в., zl. 23,0
Рэно 11, 1988 г.в., zl. 10,8
Рэно 19, 1994 г.в., zl. 31,5
Рэно-Лагуна, 1994 г.в., zl. 34,5
Рэно-Сафран, 1993 г.в., zl. 38,0
Вольва 440, 1990 г.в., zl. 22,5
Вольва 440, 1989 г.в., zl. 18,2
Вольва 460, 1991 г.в., zl. 21,0
Сеат-Ібіца, 1993 г.в., zl. 23,5
Сеат-Ібіца, 1991 г.в., zl. 18,2
Сеат-Ібіца, 1987 г.в., zl. 8,5
Сеат-Таледа, 1995 г.в., zl. 37,7
Сеат-Таледа, 1994 г.в., zl. 36,5
Хонда-Сівік, 1994 г.в., zl. 26,5
Хонда-Сівік, 1992 г.в., zl. 24,0
Хонда-Сівік, 1988 г.в., zl. 17,8
Хонда-Акорд, 1994 г.в., zl. 47,0
Хонда-Акорд, 1986 г.в., zl. 14,4
Міцубісі-Галант, 1993 г.в., zl. 41,2
Міцубісі-Галант, 1990 г.в., zl. 21,6
Міцубісі-Галант, 1989 г.в., zl. 18,0
Міцубісі-Голт, 1989 г.в., zl. 15,5
Хюндаі-Поні, 1991 г.в., zl. 16,0
Хюндаі-Элантра, 1993 г.в., zl. 27,0
Дэу-Ціко, 1993 г.в., zl. 17,0
Дэу-Нэксіа, 1995 г.в., zl. 26,0
Судзукі-Маруці, 1991 г.в., zl. 14,0

# ГАРАСКОП НА ТЫДЗЕНЬ

**БАРАН (21.3-20.4)** Зоры спрыяюць Тваім вытворчым планам. Распачынай новыя задумы. Блізьняты і Леў могуць Табе парадзіць і дапамагчы. Бойся, як агню, песімістаў.

**БЫК (21.4-20.5)** Рамантычныя дні для ўсіх закаханых Быкоў. Самотнікі з-пад таго знаку маюць шанц сустрэць свайго Адзінага ці Адзіную. Асабліва ўдалыя выходныя дні.

**БЛІЗЬНЯТЫ (21.5-21.6)** Ад цёмных хмараў, што нядаўна віселі над Табою, не засталося ані званьня. Ізноў маеш трывалае становішча і магчымасьць дзеяньня. Да вытворчага посьпеху рукой падаць.

**РАК (22.6-22.7)** Неўзабаве падвысіцца ўплыў Венеры, што паспрыяе паразуменьню з каханым. А ў нядзелю гэтая планета яшчэ больш уразнастаіць вашую любасьць. Ня страць моманту.

**ЛЕЎ (23.7-23.8)** Добры час у Тваім жыцьці. Посьпехі ў працы, а ў выходныя дні - у сябраваньні. Супрацоўніцтва з Бараном абмяркуй з роднымі, каб не пакрыўдзіліся, дзей Ты іх занядбаў.

**ДЗЕВА (24.8-23.9)** Перад Дзевамі дні поўныя шчасьця. А свабодныя асобы з-пад таго знаку могуць дайсьці да вясельля. З гэтай нагоды сканчай вытворчыя справы, каб нішто не замінала.

**ШАЛІ (24.9-23.10)** Добры тыдзень на прыняцьце важных асабістых надумаў. Можаш не вагацца ў справах блізкасьці і быць пэўным наконт таго, што цябе кахаюць.

**СКАРПІЁН (24.10-22.11)** Зважай, могуць быць непаразуменьні ў адносінах з блізкімі. Але, маючы ўпэўненасьць - змагайся! Праясьніцца сёе-тое ў пачуцьцях, толькі не выяўляй зайздрасьць.

**СТРАЛЕЦ (23.11-21.11)** Дні поўныя вынятных і раптоўных здарэньняў, як вытворчых, так і таварыскіх. Чынная праца зьяўляецца Тваёй стыхіяй, але не раскідайся сіламі.

**КАЗЯРОГ (22.12-20.1)** Зоры вяшчуюць Табе шчасьце і каханьне. Падмацуй сваё пачуцьцё дзеяй, а ня словамі. Можаш у выходныя дні выйсьці з каханым на шпацыр ці дыскатэку.

**ВАДАЛЕЙ (21.1-19.2)** Вяртаньне жыцьцёвых посьпехаў. За адным разам папpавяцца Твае пачуваньні. Лекам ад восеньскага суму можа стаць спатканьне з якім любым з-пад знаку Стральца ці Быка.

**РЫБЫ (20.2-20.3)** У выходныя дні можаш мець кепскія пачуваньні. Памні ж, на пачатку восені варта мець пад рукамі лекі ад прастуды. З панядзелку настрой Табе палепшаць посьпехі ў вытворчых справах.

ПАГОНЯ
грамадзка-палітычная газета
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 597
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская, 1
(0152) 72-35-61, 72-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-72-37-14 (23.00-10.00)

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасьць за падбор і дакладнасьць фактаў, іх меркаваньні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня:
230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 3275 Наклад 11387
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 03.10.96
Рэдактар Мікола Маркевіч

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013